• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

4 красавіка 1996 г. чацвер, № 92 (22895)



# ЗВЯЗДА

## САМЫМ «МОДНЫМ» АБУТКАМ НА БРЭСТЧЫНЕ СТАЛІ ГУМАВЫЯ БОТЫ

**Сёлета вясна ў Беларусі, па ўсім відаць, затрымліваецца. Але зіма дала магчымасць адпаведным службам грунтоўна падрыхтавацца да паводкі.**

У прыватнасці, як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА старшыня праўлення Брэсцкага аблспажыўсаюза Міхаіл Улезла, у рэгіёнах магчымага затаплення створаны месячны запас тавараў першай неабходнасці. Акрамя таго, вялікая колькасць прадуктаў завезена на базы райспажыўсаюзаў.

Улічваючы, што ў палескіх раёнах апошнім часам у некалькі разоў павысіўся попыт на гумавы абутак, яго дадатковая закупілі ў Мінскай і Гомельскай абласцях. А калі раптам пачнуцца перабоі ў энергазабеспячэнні, насельніцтва без святла не застанецца. На гэты выпадак у магазіны Столінскага, Пінскага, Лунінецкага і некаторых іншых раёнаў Брэстчыны завезена дастатковая колькасць газы і свечак.

Іван КУКСА, БЕЛТА.

## БЕЛАРУСІ АБМЯЖОЎВАЦЬ ІМПАРТ ТЭКСТЫЛЮ НЕ З РУКІ

**Кіраўніцтва Расіі мае намер увесці квоты на імпарт тэкстылю з краін ЕС. Беларусі і Казахстану прапанавана далучыцца да гэтай акцыі.**

У Маскве былі праведзены перамовы з гэтай нагоды. Міністэрства знешніх эканамічных сувязей устрымалася ад падобнага кроку. Па меркаванню спецыялістаў МЗЭС, увядзенне абмежаванняў на ўвоз імпартнага тэкстылю акажа адмоўны ўплыў на супрацоўніцтва рэспублікі Беларусь з Еўрапейскім саюзам. Як вядома, аб'ём экспарту тэкстыльных вырабаў у краіны ЕС на перыяд з 1996 па 1999 год у параўнанні з 1995 годам па асобных катэгорыях павялічыцца ад 100 да 300 працэнтаў. Больш таго, рынкі збыту палатна і валокнаў перамясціліся з краін СНД у краіны далёкага замежжа. На меркаванне спецыялістаў МЗЭС, наўрад ці было б разумна ў падобнай сітуацыі абмяжоўваць увоз тавараў з краін ЕС. Каб захаваць рынак рэспублікі ад недабраякаснай прадукцыі, існуюць мытныя пошліны. Аб неабходнасці павелічэння іх спецыялісты канцэрна «Беллегпром» заяўлялі яшчэ ў студзені бягучага года. У прыватнасці, на трыкатажныя і швейныя вырабы мытную пошліну мяркуецца павялічыць да 30 працэнтаў (пакуль гэтая лічба нападову меншая).

Жанна КАТЛЯРОВА.

## ПРЫЙШЛА ВЯСНА, ВУЛІЦЫ «ПАДМЯЛА»

**Бадай, не знойдзецца чалавека, якому б не надакучыла зімовая непагадзь, а затым і веснавая хлюпата, якая, да таго ж, нібы спецыяльна падыжаецца з кожным новым выбрыкам надвор'я ў выглядзе то мокрага снегу, то дажджу. Людзі літаральна стаміліся ў чаканні: калі ж, нарэшце, зямля скіне снегавыя аковы і вуліцы, і праспекты зазззяюць сваёй агульнавядомай (у параўнанні з той жа, напрыклад, Масквой) чысцінёй.**

Гэтае пытанне прывяло карэспандэнта газеты да начальніка канторы па механізаванай уборцы горада пры Мінгарвыканкоме Анатоля Лішвана.

Па словах апошняга, сёлета пад апекай гэтай установы знаходзіцца 1 млн. 200 тыс. кв. м плошчаў жыллёвага фонду (унутрыквартальныя праезды, тратуары і інш.) разам з плошчамі шэрага арганізацый і прадпрыемстваў. Аўтапарк канторы налічвае 154 адзінкі тэхнікі, у тым ліку 116 адзінак аўтатранспарту. Да таго ж, зусім нядаўна былі выдзелены 10 магутных трактароў «МТЗ-82». Адзінае, што засмучае працаўнікоў установы, — адсутнасць сродкаў на набыццё паліва. Тым не менш, як падкрэсліў у гутарцы А. Лішван, нават зімой, якая выдалася больш снежнай, чым у папярэднія гады, тэхніка не прастойвала ніводнага дня. Праблемы падчас снегападаў узнікалі пераважна з-за малой магутнасці агрэгатаў.

Цяпер кантора па механізаванай уборцы горада рыхтуецца да ліквідацыі «наступстваў» матухны-зімы, асноўныя работы якой разгорнуцца ў красавіку-маі. Словам, вясна ідзе — вясне дарогу!

Сяргей РАСОЛЬКА.



ЦЯПЛЕЕ... Фота В. БАТАЛІНА.

## СТВОРАНАЕ БЕЛАРУССЮ І РАСІЯЙ АБ'ЯДНАННЕ НАЗЫВАЕЦЦА «СУПОЛЬНІЦТВА»

**«Дагавор аб утварэнні Супольніцтва» — так афіцыйна называецца дакумент, падпісаны ў Маскве 2 красавіка ва ўрачыстай абстаноўцы прэзідэнтамі Беларусі і Расіі Аляксандрам Лукашэнкам і Барысам Ельцыным.**

Гэта ўдакладненне зрабіў памочнік прэзідэнта РФ па міжнародных пытаннях Дзмітрый Рурыкаў у адказ на просьбу журналістаў пракаменціраваць змешчаныя ў шэрагу сродкаў масавай інфармацыі рознахчытанні ў назве ўпамянёнага дакумента.

Паводле слоў памочніка кіраўніка расійскай дзяржавы, абодва прэзідэнты ў сваіх выступленнях у Крамлі апісальна называлі створанае супольніцтва «Супольніцтвам Незалежных Рэспублік», «Супольніцтвам Суверэнных Рэспублік», «Садружнасцю Дзяржаў» і г. д. Усе гэтыя назвы, на думку Дзмітрыя Рурыкава, маюць права на існаванне, паколькі, па сваёй сутнасці, адлюстроўваюць рэальны змест Дагавора. Аднак афіцыйна створанае аб'яднанне называецца адным словам «Супольніцтва» без якіх-небудзь дадатковых вызначэнняў.

Вядома, можна зразумець некаторыя палітычныя сілы, якія называюць новае Супольніцтва «Супольніцтвам Суверэнных Рэспублік», паколькі яго абрэвіятура — ССР — сугучная з назвай былога Савецкага Саюза. Аднак, падкрэсліў памочнік прэзідэнта, «гэта не больш чым апісальная характарыстыка» створанага інтэграцыйнага аб'яднання.

Дзмітрый Рурыкаў дадаў таксама, што, відаць, не варта ўжываць і назву «Супольніцтва Расіі і Беларусі». Дагавор адкрыты для падпісання любой іншай дзяржавай, якая падзяляе яго мэты і задачы і адпавядае пэўнаму ўзроўню інтэграцыйных патрабаванняў. У выпадку расшырэння Дагавора такая фармуліроўка будзе проста няправільнай, сказаў Дзмітрый Рурыкаў.

ІТАР—ТАСС — БЕЛТА.

## «БЕЛАРУСБАНК» — БЯССПРЭЧНЫ ЛІДЭР ФІНАНСАВАГА РЫНКУ КРАІНЫ

**Днямі ў Магілёве адбыўся чарговы агульны сход акцыянераў ААБ «Беларусбанк».**

Удзельнікі сходу заслухалі справаздачу кіраўніцтва банка па выніках работы за мінулы год і намецілі асноўныя напрамкі перспектыўнага развіцця. У прыватнасці, было адзначана, што, нягледзячы на складаныя эканамічныя ўмовы, калектыў «Беларусбанка» ў мінулым годзе значна ўмацаваў свае пазіцыі ў фінансавай сістэме краіны. Прыбыткі банка за 1995 год склалі больш за 514 мільярдаў рублёў.

Такім чынам, сёння «Беларусбанк» з'яўляецца бясспрэчным лідэрам фінансавага рынку нашай дзяржавы.

Варта адзначыць, што «Беларусбанк» у мінулым годзе выдаў нямала доўгатэрміновых крэдытаў насельніцтву на будаўніцтва і набыццё жылля, аказваў падтрымку прадпрыемствам рэспублікі.

І ў будучым ААБ «Беларусбанк» не збіраецца адмаўляцца ад сваіх сацыяльных праграм. Наадварот, на думку акцыянераў банка, ён павінен стаць вядучай фінансавай установай у сферы сацыяльнай абароны насельніцтва, а таксама падтрымкі малога і сярэдняга бізнесу. Словам, як і належыць сапраўднаму лідэру, «Беларусбанк» імкнецца вырашаць самыя надзённыя і самыя складаныя праблемы нашай дзяржавы і кожнага з нас паасобку.




*На здымку: старшыня праўлення ААБ «Беларусбанк» Надзея ЕРМАКОВА, міністр фінансаў Павел ДЗІК і міністр эканомікі Георгій БАДЗЕЙ.*

## «НАС ХАЦЕЛІ РАСЦЯГНУЦЬ ПА КВАТЭРАХ. НЕ АТРЫМАЛАСЯ...»

**Леанід МАЛЬЦАЎ, міністр абароны Рэспублікі Беларусь:** З пункту гледжання ваеннага, гэты дагавор дае магчымасць нашай рэспубліцы лепш вырашаць пытанні бяспекі ў ваеннай галіне. Пры гэтым узброеныя сілы застаюцца абсалютна самастойнымі, працягваюць заставацца ўзброенымі сіламі незалежнай дзяржавы, падпарадкоўвацца Вярхоўнаму галоўнакамандуючаму — Прэзідэнту рэспублікі. І ні адзін чалавек у адпаведнасці з нашай Канстытуцыяй за межамі рэспублікі ў выніку падпісання гэтага дагавора служыць не будзе.

БЕЛТА.

## АГРАРЫІ ГАТОВЫ ПАДТРЫМАЦЬ ДАГАВОР

«Фракцыя аграрыяў у парламенце будзе галасаваць за ратыфікацыю падпісанага 2 красавіка ў Крамлі Дагавора аб стварэнні Супольніцтва Суверэнных Рэспублік», — аб гэтым заявіў карэспандэнту БЕЛТА яе кіраўнік Мечыслаў Гірyць. На яго думку, дагавор падтрымаюць таксама фракцыі камуністаў і «Згода» і ў цэлым ён будзе ратыфікаваны Вярхоўным Саветам. Мечыслаў Гірyць не сумняваецца, што 2 красавіка зроблены важны крок у аб'яднанні двух народаў, які прывядзе да паляпшэння спраў у эканоміцы, станоўча адаб'ецца на жыцці людзей у цэлым.

Старшыня фракцыі аграрыяў не думае, што падпісаны дагавор будзе мець дэкларатыўны характар. Ён лічыць, што створаны выканком Супольніцтва, які ўзначаліў Віктар Чарнамырдзін, ажыццявіць канкрэтныя меры па ажыўленню прамысловасці, усяго гаспадарчага комплексу.

Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.

## БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ: МОЛАДЗЬ ГАТОВА СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ

Каменціруючы па просьбе карэспандэнта БЕЛТА стварэнне Супольніцтва Суверэнных Рэспублік, першы сакратар Беларускага саюза моладзі Сяргей Даронін адзначыў, што асабіста ён заўсёды шкадаваў, што такая моцная і магутная дзяржава, як Савецкі Саюз, распалася. Але разам з тым, паводле слоў маладзёжнага лідэра, трэба правесці сур'ёзныя эканамічныя рэформы ў Беларусі, каб «яна сама стала на ногі, стала моцнай дзяржавай, інакш ёсць апасенні, што Беларусь будуць расцэньваць як бедную сваячку».

— Добра, што да кампетэнцыі новага органа Супольніцтва — Вышэйшага Савета — аднесены і пытанні супрацоўніцтва ў маладзёжнай палітыцы. Гэта абнадзейвае БСМ, — сказаў Сяргей Даронін.

На яго думку, маладзёжныя праблемы ў рэспубліцы вырашаюцца дрэнна, а ў Расіі набыты вялікі вопыт работы ў гэтым напрамку. Так што ў беларуска-расійскім маладзёжным супрацоўніцтве павяіліся рэальныя перспектывы, адзначыў ён.

Кацярына ШЫМАНСКАЯ, БЕЛТА.

## БЕЛАРУСКІЯ ПАРЛАМЕНТАРЫІ БУДУЦЬ КАНТРАЛЯВАЦЬ РАСІЙСКІЯ ВЫБАРЫ

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь зацвердзіў спіс дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія, згодна з міжнародным Хельсінкскім пагадненнем, будуць кантраляваць ход выбарчай кампаніі па выбарах Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі.

У спіс уключана больш як дзесяць чалавек: адзін-два дэпутаты ад фракцыі.

Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.

# ЗАКОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ЗБОРЫ НА ЎТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАЖАРНАЙ СЛУЖБЫ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

А. Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 19 кастрычніка 1994 года «Аб зборы на ўтрыманне дзяржаўнай пажарнай службы» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 35, арт. 568) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У артыкуле 1:

частку першую пасля слоў «незалежна ад форм уласнасці» дапоўніць словамі «уключаючы замежныя юрыдычныя асобы»;

частку другую выключыць;

дапоўніць артыкул часткай наступнага зместу:

«Пры ўвозе маёмасці на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь па дагаворах арэнды (лізінгу) з замежнымі юрыдычнымі або фізічнымі асобамі збор выплачваецца арандатарам без залежнасці ад умоў дагавора».

2. Дапоўніць Закон артыкулам 1[1] наступнага зместу:

«Артыкул 1[1]. Ільготы па выплаце збору

Не абкладаюцца зборам:

маёмасць юрыдычных асоб, якія ўтрымліваюцца за кошт сродкаў бюджэту Рэспублікі Беларусь;

маёмасць юрыдычных асоб і іх структурных падраздзяленняў, якія ўтрымліваюць падраздзяленні па папярэджанню і тушэнню пажараў;

асноўныя фонды меліярацыйных сістэм і збудаванняў на іх (каналы, водныя вузлы, вадазлівы, вадазборы, шлюзы, дамбы і іншыя арашальныя, абвадняльныя і асушальныя гідратэхнічныя збудаванні), якія ўтрымліваюцца за кошт сродкаў бюджэту Рэспублікі Беларусь;

асноўныя фонды аб'ектаў гарадскога добраўпарадкавання, якія ўтрымліваюцца за кошт сродкаў бюджэту Рэспублікі Беларусь;

аўтамабільныя дарогі агульнага карыстання і збудаванні на іх (масты, пуцеправоды, трубы, сістэма водаадвода, дарожныя знакі, ахоўныя ўстройствы, пляцоўкі адпачынку, сродкі сувязі, іншыя элементы добраўпарадкавання, будынкі і збудаванні дарожнай службы), а таксама і якія знаходзяцца ў стадыі незавершанага будаўніцтва;

унутрыгаспадарчыя дарогі і збудаванні на іх (масты і іншыя дарожныя збудаванні);

пляцоўкі бетанаваныя, асфальтаваныя, з гравійным і іншым пакрыццём;

свідравіны для забору вады, воданапорныя вежы і іншыя водазаборныя ўстройствы;

водаправоды падземныя, знадворныя і ўстройствы для забору вады;

вадапрыёмнікі, вадаёмы, сажалкі, вадасховішчы, пажарныя рэзервуары;

дамбы, шлюзы, пірсы, пад'езды (збудаванні для забору вады);

унутрыгаспадарчыя меліярацыйныя сеткі і збудаванні на іх (дрэнаж, каналы, рэгулюючыя і водападаючыя ўстройствы і да т.п.);

сістэмы арашэння (падземныя і наземныя водаправоды, помпавыя станцыі, арашальныя ўстаноўкі і да т.п.);

агароджы металічныя, цагляныя, бетонныя і з іншых негаручых матэрыялаў;

помнікі, абеліскі».

3. У частцы першай артыкула 3 словы «ў памеры 1/8000 (0,0125%)» замяніць словамі «ў памеры 0,005 працэнта».

4. У артыкуле 4:

дапоўніць артыкул пасля часткі першай часткай наступнага зместу:

«Для вылічэння збору асноўныя вытворчыя і невытворчыя фонды і малакаштоўныя і хутказношвальныя прадметы прымаюцца па астаткавай вартасці на пачатак месяца»;

частку другую лічыць часткай трэцяй.

Б. Гэты Закон увесці ў дзеянне з 1 красавіка 1996 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

27 лютага 1996 г., г.Мінск.
№ 129-XIII

## АБ ПРЫЗНАННІ СТРАЦІЎШЫМІ СІЛУ ЗАКАНАДАЎЧЫХ АКТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ПАДАТКУ НА ПАЛІВА

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прызнаць страціўшымі сілу:

Закон Рэспублікі Беларусь ад 22 снежня 1991 года «Аб падатку на паліва» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 3, арт. 55; 1994 г., № 3, арт. 24, № 8, арт. 118);

Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 23 снежня 1991 года «Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на паліва» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 3, арт. 56).

2. Гэты Закон увесці ў дзеянне з 1 красавіка 1996 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА**

29 лютага 1996 г., г. Мінск.
№ 128-XIII

# ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ СТАЎКАХ АКЦЫЗАЎ

У адпаведнасці з артыкулам 3 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб акцызах» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №3, арт. 53, №12, арт. 206; 1993 г., №3, арт. 27; 1994 г., №3, арт. 24; 1995 г., №6, арт. 57, №17, арт. 189; 1996 г., № 7, арт.91 ) Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць стаўкі акцызаў па таварах, якія рэалізуюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, у наступных памерах:

| | (у працэнтах) |
|---|---|
| Спірт з харчовай сыравіны, гарэлка, лікёра-гаралачныя вырабы (у тым ліку наліўкі, настойкі, кактэйлі, пуншы, лікёры, крэмы, аперытывы, напіткі дэсертныя, іншыя спіртаўтрымліваючыя напіткі, сокі спіртаўтрымліваючыя), спіртаўтрымліваючыя вадкія харчовыя і нехарчовыя экстракты, водна-спіртавыя настоі | 80 |
| з іх лікёра-водачныя вырабы моцнасцю да 28 градусаў уключна | 65 |
| Спірт гідролізны тэхнічны | 20 |
| Шампанскае, пеністыя, сухія і паўсухія віны, вінаградныя мацаваныя віны | 45 |
| Пладова-ягадныя мацаваныя і лікёрныя віны | 25 |
| Каньяк | 50 |
| Піва, іншыя алкагольныя напіткі, атрыманыя метадам зброджвання, слабаалкагольныя напіткі | 40 |
| Тытунёвыя вырабы (акрамя III і больш нізкіх класаў) | 30 |
| Тытунёвыя вырабы (III і больш нізкіх класаў) | 25 |
| Вырабы з натуральнага футра (лясца, норкі, собаля, лісіцы, гарнастая, бабра): паліто, паўпаліто, жакеты, курткі, паланціны, гаржэты, касынкі, палярыны, пласціны з плошчай лякал 15 кв.дм і вышэй | 20 |
| галаўныя ўборы | 15 |
| каўняры, манжэты, аздобы і пласціны з плошчай лякал да 15 кв.дм | 10 |
| Адзенне з натуральнай скуры | 25 |
| Дываны і дывановыя вырабы | 0 |
| Аўтамабільны бензін (акрамя марак AI-91, А-92, AI-93, AI-95, А-96, А-98) | 25 |
| Аўтамабільны бензін марак AI-91, А-92, AI-93, AI-95, А-96, А-98 | 30 |
| Дызельнае паліва | 18 |
| Газ для запраўкі аўтамабіляў | 18 |
| Шыны для легкавых аўтамабіляў | 10 |
| Нафта сырая | 25 |
| Ювелірныя вырабы (уключаючы вырабы з брыльянтамі) | 30 |
| Брыльянты | 10 |
| Агнястрэльная і газавая зброя і боепрыпасы да яе | 30 |

2. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з 1 красавіка 1996 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь** **С.ШАРЭЦКІ**

26 сакавіка 1996 г., г. Мінск, № 143-XIII

# У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў у выкананне Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 студзеня 1996 г. № 36 «Аб зацвярджэнні важнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996 год» прынятай пастановай адобрыў падрыхтаваныя Міністэрствам эканомікі асноўныя мэтавыя паказчыкі прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай рэспублікі на 1996 год.

Міністэрству эканомікі даручана ў тыднёвы тэрмін зацвердзіць і давесці асноўныя мэтавыя паказчыкі прагнозу да міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання, аблвыканкомаў і Мінскага гарвыканкома.

Адначасова міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому даручана забяспечыць распрацоўку і рэалізацыю мераў па выкананню паказчыкаў прагнозу.

Міністэрству эканомікі сумесна з Міністэрствам статыстыкі і аналізу неабходна кантраляваць ход выканання асноўных мэтавых паказчыкаў прагнозу.

Пастановай адобраны падрыхтаваны Міністэрствам эканомікі пералік дзяржаўных заказчыкаў па пастаўках тавараў, работ і паслуг па напрамках на 1996 год.

Міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання — дзяржаўным заказчыкам даручана:

у месячны тэрмін паведаміць Міністэрству эканомікі прапановы па пастаўках тавараў, работ і паслуг для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэб на 1996 год, а таксама аб'ём сродкаў, накіроўваемых на іх фінансаванне, па крыніцах;

забяспечыць размяшчэнне заказаў на пастаўку тавараў, работ і паслуг для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэб на конкурснай аснове ў адпаведнасці з палажэннем аб падрыхтоўцы і правядзенні тэндэраў на закупку тавараў за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, а таксама па праектах, фінансуемых за кошт сродкаў замежных крэдытаў, прыцягваемых пад гарантыі ўрада Рэспублікі Беларусь. Да зацвярджэння ўказанага палажэння конкурсы па выбару пастаўшчыкоў (падрадчыкаў) тавараў, работ і паслуг праводзіць у парадку, устаноўленым дзеючымі нарматыўнымі актамі;

кожны квартал, не пазней чым 10 чысла месяца, які ідзе за кварталам, прадстаўляць Міністэрству эканомікі звесткі па заключаных дзяржаўных кантрактах на пастаўку тавараў, работ і паслуг для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэб.

У пастанове дадзена таксама даручэнне міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому прадставіць дзяржаўнаму аб'яднанню «Белдругасмет» звесткі аб размеркаванні па падведамасных аб'яднаннях, прадпрыемствах і арганізацыях аб'ёмаў пастаўкі (здачы) лому і адходаў чорных і каляровых металаў, а Камітэту па каштоўных металах Міністэрства фінансаў — каштоўных металаў у выглядзе лому і адходаў.

Рэкамендавана аблвыканкомам пры фарміраванні аб'ёмаў пастаўкі збожжа для мясцовых патрэб улічваць патрэбнасць у ім жывёлагадоўчых комплексаў, размешчаных на тэрыторыі вобласці.

Міністэрствам эканомікі, фінансаў, знешніх эканамічных сувязей неабходна ў месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб падрыхтоўцы і правядзенні тэндэраў на закупку тавараў за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, а таксама па праектах, фінансуемых за кошт сродкаў замежных крэдытаў, прыцягваемых пад гарантыі ўрада Рэспублікі Беларусь.

У заключэнне дадзена даручэнне міністэрствам эканомікі і фінансаў у двухтыднёвы тэрмін пасля прыняцця Вярхоўным Саветам Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год» прадставіць Кабінету Міністраў узгоднены з зацікаўленымі праект пастановы Кабінета Міністраў па аб'емах паставак тавараў для рэспубліканскіх грамадзянскіх патрэб, інвестыцыйную праграму, ліміты цэнтралізавана размяркоўваемых рэсурсаў.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў— БЕЛТА.**

# БЕЛАРУСКІ БОК НЕ ВЫКЛЮЧАЕ МАГЧЫМАГА ВЫКАРЫСТАННЯ ГДАНЬСКАГА ПОРТА ДЛЯ АРГАНІЗАЦЫІ ТАМ ЗАКУПАК НАФТЫ

**Беларускія спецыялісты, разгледзеўшы прапанову польскага боку аб выкарыстанні порта Гданьск для арганізацыі там закупак нафты з наступнай перапрацоўкай на нафтаперапрацоўчым заводзе ў горадзе Плоцку (Польшча), прыйшлі да высновы аб немэтазгоднасці яго такога выкарыстання ў тым варыянце, які прапаноўваецца.**

Беларускі бок, у прыватнасці, не задавальняе прапанова перапрацоўваць нафту, што закупляецца ў Польшчы, паколькі рэспубліка мае нафтаперапрацоўчы завод у Наваполацку і выкарыстанне ўласных магутнасцей абыдзецца, безумоўна, танней. Акрамя таго, цяпер Беларусі выгадней закупляць нафту ў Расіі, чым у краінах АПЕК (Міжнародная арганізацыя дзяржаў—экспарцёраў нафты). Паводле даных Дзяржаўнага канцэрна «Белнафтапрадукт», кошт расійскай нафты ў першай палове сакавіка не перавышаў 90 долараў за тону, адначасова як цана адной тоны нафты, якая ішла ў Гданьск з краін АПЕК, складала 115—125 долараў.

Як вядома, вынікі перамоў беларускага кіраўніцтва з расійскімі нафтавымі кампаніямі «Юкос», «ЛУКойл», «Слаўнафта» і іншымі дазваляюць разлічваць на пастаўку ў рэспубліку ў гэтым годзе каля 16 мільёнаў тон нафты. Аднак, паколькі ў бліжэйшы час прагназіруецца рост цэн на расійскую нафту, паводле меркавання беларускіх спецыялістаў, не варта канчаткова адхіляць прапанову Польшчы аб выкарыстанні Гданьскага порта. У гэтых мэтах Кабінет Міністраў рэспублікі даў даручэнне адпаведным структурам зрабіць дэталёвы аналіз закупак нафты ў Польшчы, аднак з наступнай яе перапрацоўкай у Беларусі.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**

# ЗАРЭГІСТРАВАНА ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ПАРЛАМЕНЦКІ КЛУБ»

**Чарговае рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне пад назвай «Парламенцкі клуб» зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі.**

На сёння ў «Парламенцкі клуб» увайшло каля 30 дэпутатаў Вярхоўнага Савета: Аляксандр Якабсан, Міхаіл Снігір, Станіслаў Гаварушкін, Алена Скрыган, Алег Ляшчынскі і іншыя. Узначальвае арганізацыю старшыня пастаяннай парламенцкай Камісіі па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы Анатоль Красуцкі. Па яго словах, асноўная мэта «Парламенцкага клуба» — тлумачэнне выбаршчыкам «безальтэрнатыўнасці народаўладдзя ў краіне».

Акрамя таго, у Статуце аб'яднання закладзены іншыя мэты і задачы: садзейнічанне станаўленню парламентарызму ў Беларусі, павышэнне якасці і эфектыўнасці дзейнасці Вярхоўнага Савета, падтрымка прамых кантактаў дэпутатаў з выбаршчыкамі, супрацоўніцтва са сродкамі масавай інфармацыі ў мэтах «станоўчага» асвятлення працы парламента.

«Парламенцкі клуб» — «клуб не элітны», адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН Анатоль Красуцкі. Яго членам можа стаць кожны беларус, які дасягнуў васемнаццацігадовага ўзросту. Акрамя дэпутатаў Вярхоўнага Савета, у «Парламенцкі клуб», як і задумвалася напачатку, могуць уваходзіць таксама дэпутаты мясцовых Саветаў усіх узроўняў і дэпутаты парламентаў ранейшых скліканняў.

Варта адзначыць, што першымі ідэю стварэння падобнай арганізацыі, але пад назвай «Дэпутацкі клуб», прапанавалі былы Старшыня Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб, Дзмітрый Булахаў і некаторыя іншыя вядомыя палітыкі каля двух месяцаў таму. Аднак ніводзін з іх не ўдзельнічаў у стварэнні «Парламенцкага клуба» і не з'яўляецца яго членам.

**Юрась ДУБІНА, БелаПАН.**

# БЕЛАРУСАЎ У АРМІІ СТАЛА БОЛЬШ

Не так даўно ў газетах прамільгнула інфармацыя аб нацыянальным саставе расійскіх Узброеных Сіл. Што ж у гэтых адносінах уяўляюць сабой Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь?

Угледзьцеся ў табліцу

| Нацыянальнасць | Да рэфарміравання Узброеных Сіл (у прац.) | Па стану на 1 студзеня 1996 года (у прац.) |
|---|---|---|
| беларусы | 18,7 | 48,3 |
| рускія | 60,3 | 37,6 |
| украінцы | 15,3 | 10,7 |
| палякі | 0,6 | 1,2 |
| татары | 1,4 | 0,5 |
| яўрэі | 0,4 | 0,2 |
| іншыя | 3,3 | 1,5 |

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

# АНАТОЛЬ БУТЭВІЧ СТАЎ ГЕНЕРАЛЬНЫМ

Пастановай Кабінета Міністраў Анатоль Бутэвіч, які працаваў да нядаўняга часу міністрам культуры і друку, назначаны Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у польскім горадзе Гданьску.

Гэтай жа пастановай Аляксей Шаховіч вызвалены ад пасады Генеральнага консула ў Гданьску ў сувязі з пераходам на іншую работу.

**БЕЛТА.**

# ПІКЕТАВАЛІ БУДЫНАК ГАРВЫКАНКОМА

**2 красавіка каля 300 прадпрымальнікаў і камерсантаў пікетавалі будынак Віцебскага гарвыканкома, патрабуючы адмены рашэння гарадскіх уладаў аб забароне прыватнага продажу прамтавараў на рынках абласнога цэнтра.**

Да гонару ўладаў, яны вырашылі пайсці насустрач гэтаму патрабаванню. Да перагляду рашэння гарвыканкома віцэ-мэр горада Лявонцій Вішнявецкі ўзяў адказнасць на сябе і распарадзіўся аб аднаўленні статус-кво.

**Іван ВАЛІН, БелаПАН.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ*

# ЗАРАБІЦЬ 8 МІЛЬЁНАЎ ЗА АДЗІН МЕСЯЦ...

**Стракацяць, стракацяць сёння нашы газеты рознага роду аб'явамі. Ёсць сярод іх, напрыклад, і такія: «Прапаноўваю з наяўным капіталам 500.000 рублёў зарабіць за месяц 5—8 мільёнаў. Якім чынам? Унікальны метад высылаецца неадкладна. Пакладзіце ў канверт 50.000 рублёў і вышліце...» (на абаненцкую скрынку нумар...).**

Адна з такіх аб'яў неяк трапіла і мне на вочы. У ёй было напісана: «Рэгіянальны пасрэднік прадстаўніка заходняга бізнесу прапаноўвае падрабязную інфармацыю, якая дасць Вам долары ЗША! Ваша поле дзейнасці — другасная сыравіна, якую можна знайсці без цяжкасці. Спосаб — даволі просты — апрацоўка паўфабрыката даступны кожнаму і ажыццяўляецца ў хатніх умовах без выкарыстання якога-небудзь абсталявання і дапаможных прылад. Гэта не зойме ў Вас шмат часу і дасць Вам тысячы долараў. Вы супрацоўнічаеце з Захадам, які не будзе скупіцца пры ўзаемнай выгадзе!

Патэнт з падрабязнай інфармацыяй і адрасам прадстаўніка заходняга бізнесу, з якім будзеце супрацоўнічаць, Вы атрымаеце па пошце, пералічыўшы (столькі-та тысяч) рублёў па адрасу...»

Прачытаў я ўсё гэта і падумаў: а чаму б і мне — на такіх вось «смешных» умовах — не стаць мільярдэрам?

Купіў я ў чатырыста тысяч разоў падаражэлы за гады рэвалюцыйных пераўтварэнняў паштовы канверт, паклаў у яго голуба прывіднай удачы — пісьмо з квітанцыяй аб пераводзе грошай, адправіў і стаў чакаць.

Адказ, трэба сказаць, атрымаў хутка. Іншыя — наогул не атрымліваюць. Пасланне апавяшчала: «Заходнія канцэрны прымаюць для вырабу рознай прадукцыі жоўцевыя камяні буйной рагатай жывёлы (каровы, быкі, валы). Савецкія тэхналогіі перапрацоўкі жывёлы на мясакамбінатах прадугледжвалі выкідванне гэтых камянёў у адходы і невыкарыстанне іх каштоўных якасцей. Таму нішто не перашкаджае Вам пасля апрацоўкі (сушкі) пераслаць камяні аднаму з прадстаўнікоў заходняга прадпрымальніцтва і атрымаць за гэту паслугу СКВ».

Далей прапаноўвалася тэхналогія сушкі «жывёльных» камянёў, парадак іх транспарціроўкі-перасылкі, умовы аплаты і... невялікая прыпіска: «Пісаць толькі па-польску». Дзякуй Богу, што не па-кітайску! Аднак усё гэта мяне ўжо мала цікавіла, нягледзячы на тое, што на самай справе (не схлусілі ў аб'яве!) за 100 грамаў цэлых, вялікіх, добра высушаных камянёў абяцалася 700 «зялёных»...

Усю маю прадпрымальніцкую ініцыятыву забіла самае што ні на ёсць банальнае пытанне: «Дзе ж мне, гарадскому жыхару, узяць іх — гэтыя самыя буйна-рагата-жывёльныя камяні?»

Ці не лепш было б прадстаўніку такога вось заходняга бізнесу звярнуцца са сваёй прапановай адразу на мясакамбінаты, а не засмечваць нашу прэсу сваімі аб'явамі? Не, па «рыначнаму» мысленню прадстаўніка — не лепш. Бо інакш ён бы не атрымаў ад мяне грашовага пераводу... Сушыў бы камяні, якіх, як і ў мяне, я мяркую, у яго няма, сам.

І вось я зноў і зноў адкрываю газету, чытаю аб'явы з прапановамі заманлівых мільёнаў, але сам ужо не «клюю» на такую прынаду. Я ведаю: мільёны робяць тыя, хто такія аб'явы публікуе. Гэта і ёсць адзін з сапраўдных спосабаў стаць першапраходцам у дзядзечкі Скруджа. Так што смялей! Але сваіх грошай з кішэні лепш бяздумна не вымайце.

**Васіль АРОН.**

*СПАКОН ВЯКОЎ*

# Выйшлі мы ўсе з... Егіпта

**Светлае веснавое свята Песах увесь яўрэйскі свет адзначае ў гэтым годзе з 4 па 11 красавіка.**

Такое веснавое свята ёсць і ў хрысціянстве — там яно называецца Пасхай, але сугучнасцю назваў усе супадзенні і заканчваюцца. У адрозненне ад хрысціянскай Пасхі, яўрэйскае свята Песах не звязана з імем Ісуса Хрыста, а адлюстроўвае падзею, якая адбылася за 13—15 стагоддзяў да мяркуемага нараджэння гэтага чалавека, — сыход яўрэяў з Егіпта. Ды і само слова Песах — арамейскага паходжання, у той час як Пасха — грэчаскае слова, якое перайшло потым у рускую мову.

Сыход яўрэяў з Егіпта азначаў вызваленне іх ад рабства: на працягу чатырохсот гадоў знаходзіліся яны ў палоне ў егіпецкіх фараонаў.

Назву свята — Песах — традыцыя звязвае з тым, што ў час караў егіпецкіх, тых самых дзесяці караў, якімі Бог пакараў егіпцян за тое, што фараон не адпускаў яўрэяў з рабства на свабоду, няшчасці абмінулі дамы ізраільцян, пакінуўшы іх некранутымі. Бог мінаваў іх, паразіўшы толькі дамы егіпцян. Слова «мінаваў» на іўрыце якраз і гучыць як «песах». А ўвогуле, слова «песах» у старажытнасці азначала аднагадовага ягня ці казляня, якога прыносілі ў ахвяру напярэдадні гэтага свята, — яго смажылі цалкам і з'ядалі на сямейнай святочнай трапезе на працягу першай пасхальнай ночы (сем'і ў яўрэяў былі вялікія, і з'есці адно казляня было няцяжка).

На працягу ўсяго свята, усіх сямівасьмі дзён, пакуль яно цягнецца, яўрэям завешчана есці хлеб толькі з няквашанага цеста: так традыцыя пранесла праз стагоддзі памяць аб тым, што ізраільцяне, якія ў спешцы пакідалі Егіпет, вымушаны былі пячы хлеб з не паспеўшага падысці цеста. Трэба сказаць, што прыгатаванне праснакоў (мацы) з'яўляецца галоўным у пасхальных абрадах яўрэяў. Калі не лічыць адмовы ад ахвярапрынашэння ягня, якая адбылася пасля разбурэння Другога іерусалімскага храма (70 г. н. э.), гэтыя абрады наогул захаваліся практычна некранутымі з самых даўніх часоў.

Кульмінацыяй свята з'яўляецца трапеза ў вечар наступлення Песаха, якая носіць назву седэра. Праводзіцца седэр па пэўнаму рытуалу, усе элементы якога строга зафіксаваны пэўнымі правіламі, парушаць якія ні ў якім разе нельга. Не выпадкова само слова «седэр» у літаральным перакладзе азначае «парадак».

Галоўная мэта седэра — расказаць дзецям аб сыходзе яўрэяў з егіпецкага рабства. У нашы дні, калі ўжо хутка паўстагоддзя, як існуе ўваскрэшаная з небыцця яўрэйская дзяржава, свята Песах як сімвал вызвалення, як увасабленне сыходу яўрэяў з краін рассялення на сваю гістарычную радзіму набывае асаблівае значэнне.

У хрысціянстве, якое бярэ свой пачатак у іудаізме, свята Песах атрымала новае асэнсаванне, але засталося адзіным хрысціянскім святам, якое захавала сувязь з месячным яўрэйскім календаром.

**Якаў БАСІН.**

# З ЧЭКАМІ ЎСЁ Ў ПАРАДКУ?

**Паводле даных Міндзяржмаёмасці загадам, ад 14 сакавіка бягучага года міністэрства анулявала ўсе даведкі-дазволы на адкрыццё спецыяльных (чэкавых) рахункаў, якія былі выдадзены Міндзяржмаёмасцю і яго тэрытарыяльнымі камітэтамі суб'ектам прыватызацыі за перыяд з 20 чэрвеня 1994 па 27 мая 1995 года.**

Згодна з гэтым загадам губляе сілу і ўзгадненне міністэрства ад 20 чэрвеня 1994 г. на дакуменце Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь «Аб парадку адкрыцця спецыяльных (чэкавых) рахункаў юрыдычным асобам». На думку начальніка ўпраўлення міжнароднага супрацоўніцтва і інфармацыйнага забеспячэння прыватызацыі Н. Петрачковай, падобныя дзеянні міністэрства будуць садзейнічаць навядзенню парадку ў абароце імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць».

**Сяргей КУРКАЧ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# ЗАГІНУЎ У НЯРОЎНЫМ ПАЯДЫНКУ

У той па-вясноваму цёплы сакавіцкі вечар Ганна Кажарновіч непакоілася. Хутка ўжо восем вечара, а Стася ўсё яшчэ няма з работы, тым больш, што ён быў не з катэгорыі аматараў застольных размоў «пра жыццё» пасля працоўнага дня. Не дачакаўшыся мужа, пачала ўкладваць спаць чатырохгадовага Дзяніса і аднагадовага Косцю. Раптам у дзверы сціплага інтэрнацкага пакойчыка пастукалі. На парозе стаялі двое супрацоўнікаў міліцыі.

— Не можа быць! Напэўна, выйшла памылка? — маладая жанчына нізашто не магла паверыць, што яе любы Стась ужо ніколі не прыйдзе дамоў... Яна хуценька знайшла пашпарт мужа і з апошняй надзеяй падала міліцыянерам. На жаль, гэта была не памылка.

Кажарновіч Станіслаў Васільевіч, 1966 года нараджэння, слесар «Смаргоньміжрайгаза», загінуў у няроўным паядынку з узброеным бандытам, абараняючы абрабаваную жанчыну.

Трагічная падзея адбылася за дзве гадзіны да гэтага. А калі дакладней, то, як запісана ў матэрыялах крымінальнай справы, у 17 гадзін 45 хвілін 32-гадовы грамадзянін Расіі С., які незадоўга да гэтага прыехаў у Маладзечна да жонкі, учыніў разбойны напад на вуліцы Маладзёжнай у Смаргоні.

У горад злачынец прыехаў нібыта гандляваць аброцямі. Ды, відаць, гэты нетрадыцыйны бізнес не прынёс чаканых даходаў, бо хапіла толькі на адну бутэльку віна, а хацелася дабавіць... Вось і выйшаў, як кажуць, на слізкую дарогу. Тым больш, што акрамя намераў былі ў яго ўсе прылады для гэтага: спараны абрэз-трохстволка, прыстасаваны для стральбы дробнакаліберньімі патронамі, боекамплект і спецназаўская маска-шапачка. Месцам для нападу ён выбраў нешырокую лесапасадку, што цягнулася ўздоўж чыгункі ў малалюдным месцы па вуліцы Маладзёжнай. Пэўна, ён прымеціў гэтае месца нездарма: нягледзячы на тое, што было яшчэ светла, па вузкай сцяжынцы ў глыбокім снезе, з прамыслова-ўскраіннай да цэнтральнай часткі горада ішлі толькі рэдкія прахожыя. Ахвярамі С. выбраў ужо немаладых жанчыну і мужчыну, якія нетаропка ішлі па сцяжынцы. Тыя, аднак, заўважылі наперадзе незразумелыя прыгатаванні падазронага тыпа і павярнулі назад, але было позна...

Злачынец у масцы дагнаў іх і, пагражаючы абрэзам, літаральна прымусіў вывернуць пустыя кішэні мужчыну, а потым скіраваў увагу на жанчыну: адабраў у яе залаты заручальны пярсцёнак, завушніцы і 340 тысяч рублёў. Пасля гэтага бандыт закамандаваў:

— А зараз — пайшлі наперад і не азірацца!

Амаль губляючы ад страху прытомнасць, пацярпелая падбегла да чатырох мужчын, якія мірна размаўлялі на сцяжынцы непадалёку.

— Тут бандыт! Ён толькі што мяне абрабаваў: забраў пярсцёнак, завушніцы, грошы. Дапамажыце!

— Дзе ён? — адразу адгукнуўся малады хлопец (гэта быў Станіслаў Кажарновіч).

— Туды пабег, — паказала рукою абрабаваная жанчына і ўжо ўслед хлопцу і яго таварышам пракрычала: — Ён узброены, пісталет у яго!

Метраў праз 200 чацвёра рабочых аб'яднання «Смаргоньміжрайгаз» Аляксандр Шурпо, Эдуард Тамашэвіч, Віктар Капцюг і Станіслаў Кажарновіч убачылі злачынца. Той перабег на другі бок чыгункі і спрабаваў схавацца сярод гаражоў, але гэта яму не ўдалося, — заўважылі. Тады і забег на тэрыторыю мясцовага тэлетранслятара. Але і там ён не здолеў схавацца і быў блакіраваны мужнай чацвёркай. Шурпо і Тамашэвіч засталіся каля варот — каб не збег, а Капцюг і Кажарновіч пачалі абходзіць з двух бакоў невялікі будынак тэхнічнай службы, за якім прымецілі злачынцу. Падчас аблогі Віктар Капцюг першым сам-насам сутыкнуўся з нападаўшым. Былы воін-афганец, нягледзячы на настаўленыя ствалы, спрабаваў па-добраму дамовіцца з бандытам, каб той добраахвотна вярнуў нарабаванае жанчыне. Ды дзе там — у адказ пачуў знервавана-напружаны выкрык:

— Стой і не шморгайся — буду страляць!

У гэты момант з другога боку на злачынца выбег Кажарновіч. Бандыт, пачуўшы яго крокі, развярнуўся і без папярэджання стрэліў ва ўпор у Станіслава. Той, падаючы, аднак паспеў учапіцца за злачынца і зваліць яго на снег. Гэтыя некалькі імгненняў дазволілі Капцюгу падбегчы да месца здарэння. Ды толькі С. змог падняцца і зноў зблізку дуплетам стрэліў у Капцюга. Пашанцавала ўжо аднойчы параненаму ў Афгане 28-гадоваму хлопцу: ён паспеў закрыць смяротныя зрэнкі рукою — адна куля расчапіла браслет, а другая трапіла ў руку. Тым не менш, з куляй у руцэ, Капцюг зваліў бандыта на снег, скруціў і перадаў падаспеўшым таварышам. А Станіслаў Кажарновіч, атрымаўшы раненне ў жывот, сцёк крывёю. Яго паспелі давезці толькі да чыгуначнага пераезда, дзе ўсё і пачыналася, — трагічнае кола замкнулася.

Яму не было і 30 гадоў (нарадзіўся 26 красавіка). Абарвалася жыццё сціплага і працавітага хлопца, мужа і бацькі двух малалетніх дзяцей, адзінага сына ў маці; мужнага і самаахвярнага чалавека, які, ні хвіліны не раздумваючы, разам з сябрамі стаў на абарону зняважанай жанчыны.

**Георгій СЫСОЙ,**
**прэс-служба Гродзенскага УУС.**

# ДА ЧАРНОБЫЛЬЦАЎ — З ДАБРАЧЫННАСЦЮ

**Што вы адчуваеце пасля міжнароднай канферэнцыі аб дабрачыннай дзейнасці міжнародных арганізацый па праектах і праграмах «Чарнобыль — дапамога»? — такое пытанне задалі журналісты старшыні Гомельскага аблвыканкома Паўлу Шыпуку, які, дарэчы, выступаў на ёй з дакладам. І ў адказ пачулі:**

— Тое, што мы не пакінуты ў свеце сам-насам з бядой, што яе разам з намі раздзялілі многія тысячы людзей планеты Зямля. Чарнобыльская трагедыя аб'яднала нас, і я мару аб тым, каб грашовыя сродкі ішлі не на ваенныя мэты, а на гуманітарную дапамогу. На канферэнцыі, якая праходзіла ў Гомелі два дні і ўчора закончыла сваю работу і арганізатарамі якой напярэдадні сумнага дзесяцігадовага юбілею былі аблвыканком, абласныя дабрачынныя фонды «Дапамога дзецям Чарнобыля», «Здароўе», «Жыццё з Чарнобылем», абласное аддзяленне рэспубліканскага фонду «Дзеці ў бядзе», а таксама дабрачынныя фонды, рэлігійныя і грамадскія арганізацыі Германіі і Італіі, Японіі, Бельгіі, Швецыі, Аўстрыі, Галандыі, Ірландыі, Польшчы, Францыі, Фінляндыі, Англіі і ЗША, прыводзіліся пераканаўчыя лічбы і факты таго, аб чым гаварыў старшыня аблвыканкома. Напрыклад, толькі за апошнія пяць гадоў Гомельшчына, якая найбольш пацярпела ад «мірнага атама», атрымала ад нашых замежных сяброў медыкаментаў, медыцынскага абсталявання і інструментарыя амаль на трыццаць мільёнаў амерыканскіх долараў і больш як трынаццаць тысяч тон грузаў гуманітарнай дапамогі. А ўзяць аздараўленне дзяцей. Толькі летась за мяжой яго прайшлі 21 тысяча хлопчыкаў і дзяўчынак. Супрацоўніцтва ў гэтых напрамках павінна і будзе працягвацца — такой думкі былі ўдзельнікі канферэнцыі як з беларускага боку, так і з германскага, італьянскага і прадстаўнікі іншых краін, якія выступалі з адпаведнымі паведамленнямі і прапановамі, што маюць на мэце вырашэнне асобных праблем. У прыватнасці, у час прэс-канферэнцыі намесніку Мытнага камітэта рэспублікі Валерыю Ярашэўскаму амаль цэлую гадзіну давялося «адбівацца» ад пытанняў, чаму працэдура праходжання мытнага агляду гуманітарнай дапамогі ў Брэсце па аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах» не такая прадуманая, як у заходніх краінах і нярэдка штурхае мытнікаў на хабар (толькі летась там былі ўзбуджаны 44 крымінальныя справы).

Прагучала на канферэнцыі і думка аб тым, што гуманітарная дапамога — гэта добра. Але час падумаць ужо і самім, каб аздараўляць сваіх дзяцей у рэспубліцы, выдзяляць на чарнобыльскую тэматыку большыя грашовыя сродкі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ

## у камерцыйных банках на 3 красавіка 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраўл.) | 12850 | 13100 | 8500 | 8800 | 2.50 | 2.70 | 769-533 |
| Белбізнесбанк (гар. дыр.) | 12700 | 13100 | 8500 | 8850 | 2.45 | 2.65 | 271-906 067 |
| ФК «Вераніка»* (за расійскія рублі) | 12900 4900 | 13050 5000 | 8600 | 8900 | 2.60 | 2.70 | 531-504 |
| Банк «INKO» (за расійскія рублі) | 12800 4930 | 13150 5059 | 8600 | 8900 | 2.54 | 2.66 | 238-020 |
| Мінскі транзітны банк* | 12800 | 13100 | 8500 | 8900 | 2.50 | 2.65 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 12850 | 13100 | 8500 | 8900 | 2.50 | 2.65 | 372-825 |
| Народны банк | 12850 | 13100 | 8650 | 8800 | 2.52 | 2.62 | 238-610 |
| «Алімп» | 12750 | 14000 | 8400 | 8700 | 2.50 | 2.70 | 589-649 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 12900 | 13300 | 8550 | 8700 | 2.50 | 2.60 | 291-646 |
| Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ» | 12650 | 13100 | 8450 | 9100 | 2.52 | 2.75 | 265-612 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безн. разл.) | 11500 | | 7765.02 | | 2.37 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4863 | | 3282.48 | | 100 бел.р. 37.62 | | |

* — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

**Агенцтва Граўцова.**

*СПОРТ-ЭКСПРЭС*

# ВЫСТУПІЛІ ДАСТОЙНА

**У Будапешце завяршыўся чэмпіянат Еўропы па кулявой стральбе. Традыцыйна моцныя ў гэтай дысцыпліне беларускія спартсмены, якія маюць у сваіх радах алімпійскіх чэмпіёнаў з Гродна Ірыну Шылаву і Канстанціна Лукашыка. Дарэчы, гродзенцы пацвердзілі сваю высокую рэпутацыю і на гэты раз.**

Шылава ў стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі (40 выстралаў з 10 метраў) паказала найлепшы рэзультат і заваявала «золата». А вось Лукашык задаволіўся толькі бронзай, уступіўшы першыя пазіцыі спартсменам з Германіі і Расіі ў стральбе з пісталета (40 выстралаў з 10 метраў).

Пачын нашых лідэраў падтрымалі беларускія дзяўчаты, якія ў камандных спаборніцтвах сталі першымі.

А юніёрка Ірына Прыходзька ў індывідуальным заліку атрымала залаты медаль, паказаўшы выдатны рэзультат — 382 ачкі з 400 магчымых.

Усяго ж на першынстве кантынента разыгрывалася 5 камплектаў узнагарод. Як бачна, беларусы ў гэтай дысцыпліне выглядаюць дастойна. Нядрэнна было б, калі б нашы стралкі выступілі так і на Алімпійскіх гульнях у Атланце. Дарэчы, беларусы маюць 12 алімпійскіх ліцэнзій у кулявой стральбе. Гэта чацвёрты вынік у свеце.

# СУДДЗІ НАЗНАЧАНЫ

**Першую гульню Нацыянальнай зборнай Беларусі па футболу ў адборачным цыкле чэмпіянату свету-98, якая пройдзе ў Стакгольме 1 чэрвеня 1996 г., будзе судзіць французскі арбітр Рэні Харал. Гэтую інфармацыю Федэрацыя футбола Беларусі атрымала з ФІФА.**

Акрамя таго, рэферы назначаны яшчэ на тры сустрэчы ў адборачнай групе № 4, дзе выступае наша зборная.

31.08.96 Аўстрыя—Шатландыя — Мішэль Піра (Бельгія).

31.08.96 Беларусь—Эстонія — Сяргей Хусаінаў (Расія).

01.09.96 Латвія—Швецыя — Ласла Вагнер (Венгрыя).

Судзейскі камітэт ФІФА пагадзіўся з прынцыпам, згодна з якім нацыянальныя асацыяцыі самі будуць прызначаць двух памочнікаў (лайнсменаў) і чацвёртага арбітра.

Калі да фінальнай часткі чэмпіянату свету яшчэ больш як два гады, то да заключных гульняў першынства кантынента засталося толькі два месяцы. Беларусь, праўда, на гэты турнір не трапіла, аднак беларускі дух будзе прысутнічаць у асобах нашых арбітраў, якіх УЕФА назначыла абслугоўваць фінальны турнір у Англіі. Узначальваць беларускі судзейскі корпус будзе вядомы ў свеце рэферы мінчанін Вадзім Жук.

Дапамагаць яму будуць Алег Чыкун і Юрый Дупанаў. Чацвёртым (запасным) арбітрам будзе Казімір Знайдзінскі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 6.36 | 19.50 | 13.14 |
| Віцебск — | 6.24 | 19.41 | 13.17 |
| Магілёў — | 6.25 | 19.39 | 13.13 |
| Гомель — | 6.22 | 19.36 | 13.14 |
| Гродна — | 6.49 | 20.06 | 13.17 |
| Брэст — | 6.54 | 20.03 | 13.09 |

### МЕСЯЦ

**Поўня 4 красавіка**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Васілія, Драсіды, Ісаакія К. Ізыдора, Веславы**

**Неспрыяльныя дні ў красавіку 4, 6, 15, 20, 23, 27, 29.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы будзе воблачна з праясненнямі, па заходняй палавіне ападкі. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне, Віцебску — 5—7, Магілёве — 6—8, Брэсце — 7—9, Гомелі — 8—10 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак захаваецца пераменная воблачнасць, па паўднёваму ўсходу невялікі дождж. 6-га без ападкаў, месцамі туман. Тэмпература ўначы 0—5, удзень — 6—11, месцамі да 14 цяпла.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 4-5 красавіка

У бліжэйшыя двое сутак надвор'е будзе вызначацца праходжаннем цёплага фронту, што прывядзе да павышэння тэмпературы і паніжэння ўтрымання кіслароду ў паветры. 4 красавіка — неспрыяльны дзень па геафізічных фактарах. У такіх умовах хворыя з сардэчна-сасудзістай паталогіяй, захворвання дыхальнай сістэмы могуць адзначаць слабасць, санлівасць, хуткую стамляльнасць. У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, часта праветрываць памяшканні, рабіць прагулкі на свежым паветры, рэгулярна прымаць прэпараты, прызначаныя ўрачом. Асобам, схільным да паніжэння АЦ, паказаны прыём танізуючых сродкаў (настойкі жэньшэню, лімонніку, элеўтэракоку).

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# Іван Юркін аб ходзе барацьбы міліцыі з бандытызмам, наркабізнесам і фальшываманецтвам

**З намеснікам міністра ўнутраных спраў, начальнікам Галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі палкоўнікам Іванам ЮРКІНЫМ гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса»**

**— Іван Захаравіч! Інцыдэнт, які адбыўся нядаўна у Оршы і ў выніку якога адзін супрацоўнік праваахоўных органах загінуў і яшчэ сем міліцыянераў, а таксама двое грамадзян атрымалі раненні, нікога не мог пакінуць раўнадушным. Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра гэтае здарэнне.**

— Бяда здарылася 14 сакавіка на чыгуначным вакзале ў Оршы. Супрацоўнікі міліцыі праводзілі ў той дзень спецыяльную аперацыю па выяўленню асоб, якія маюць дачыненне да бандыцкіх фарміраванняў.

Нарад патрульна-паставой службы затрымаў у той вечар дваіх невядомых па падазрэнню ва ўчыненні крадзяжу з аўтаматычных камер захоўвання багажу, якія знаходзяцца на вакзале ля ўваходу ў дзяжурную часць аддзела ўнутраных спраў. На патрабаванне супрацоўнікаў міліцыі прад'явіць дакументы, адзін з затрыманых, не вымаючы рук з кішэняў паліто, пачаў страляць з пісталета ва ўпор у трох міліцыянераў, якія былі ў дзяжурнай часці. Капітан М. Дзям'янаў і старшына міліцыі Г. Кармазінаў атрымалі агнястрэльныя раненні. Марудзіць было нельга. Супрацоўнікі міліцыі скарысталі ў адказ табельную зброю і ранілі нападаўшых. У гэты момант у руках аднаго са злачынцаў і з'явілася баявая граната, якую ён кінуў у памяшканне дзяжурнай часці, куды ў той час на выстралы ўжо ўбеглі некалькі міліцыянераў. Выкінуць гранату з памяшкання было немагчыма, а вакол былі людзі. Тады капітан М. Дзям'янаў закрыў гранату сваім целам і атрымаў пры гэтым смяротнае раненне. Асколачныя раненні атрымалі яшчэ сем супрацоўнікаў міліцыі. Дваіх з якіх — старшага лейтэнанта А. Пераходчанку і сяржанта А. Малануxіна з цяжкімі траўмамі медыкі вымушаны былі змясціць у рэанімацыйнае аддзяленне мясцовай бальніцы.

Інцыдэнт на вакзале пры гэтым не быў вычарпаны. Выкарыстаўшы пэўнае замяшанне пасля ўзрыву, злачынцы кінулі свае тры сумкі і паспрабавалі ўцячы. Для іх выкрыцця і затрымання ў самой Оршы і шэрагу абласцей рэспублікі быў уведзены спецыяльны план. Прынятыя аператыўна-вышуковыя меры дазволілі выявіць месцазнаходжанне злачынцаў праз гадзіну. Зламыснікі аказаліся ў прыватных дамах у межах горада. На некалькі прапаноў аператыўных супрацоўнікаў здацца злачынцы адказалі адмовай і пісталетнымі стрэламі. Пасля чаго было прынята рашэнне аб рашучых дзеяннях па затрыманню. Рабілася ўсё магчымае, каб не дапусціць дадатковых ахвяр сярод асабовага саставу. Аперацыя завяршылася позна ўначы. Яе вынік: з боку асабовага саставу аршанскай міліцыі страт ужо не было. Двое ж злачынцаў, якія атрымалі агнястрэльныя раненні ў ходзе перастрэлкі, былі дастаўлены ў бальніцу, дзе хутка сканалі.

У кінутых злачынцамі на вакзале сумках пры аглядзе былі знойдзены пісталеты і боепрыпасы да іх, падробленыя пашпарты, украдзеныя ў грамадзян рэчы.

Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа. Расследаванне вядзе Аршанская транспартная пракуратура. Праз некалькі дзён установілі асобы злачынцаў. Адзін з іх — ураджэнец Курскай вобласці, некалькі разоў раней быў асуджаны на працяглыя тэрміны пазбаўлення волі за разбой і хуліганства. Другі — ураджэнец Кабардзіна-Балкарыі, меў шэсць судзімасцей за разбой, хуліганства, уцягненне ў проціпраўную дзейнасць непаўналетніх. Перадапошнім буйным злачынствам гэтай групы стала забойства маці і дачкі ў адным з дамоў у Нальчыку. Яны забілі гаспадароў і выкралі з кватэры чатыры футры, якія былі знойдзены ў іх у Оршы. Следства па гэтай справе працягваецца.

**— Як зараз складваецца сітуацыя са злачыннасцю па рэспубліцы ў цэлым?**

— З пачатку года ў рэспубліцы зарэгістравана каля 20 тысяч злачынстваў. Для параўнання скажу, што ў мінулым годзе гэта лічба была большая на 1300. Згодна з данымі, 14 тысяч злачынстваў зарэгістравана па лініі крымінальнага вышуку. У прыватнасці, у студзенілютым у рэспубліцы ўчынена 136 наўмысных забойстваў і замахаў на жыццё грамадзян. Цалкам адзначаецца зніжэнне ў працэнтных адносінах колькасці ўчыненых наўмысных цяжкіх цялесных пашкоджанняў, згвалтаванняў, грабяжоў, крадзяжоў маёмасці. Разбоі, грабяжы, вымаганне, махлярства, крадзяжы складаюць 82 працэнты сярод астатніх відаў злачынстваў.

94 злачынствы ў рэспубліцы з пачатку года ўчынены з выкарыстаннем агнястрэльнай зброі. З прымяненнем халоднай зброі — 2 тысячы.

Адзначаючы высокі ў апошні час узровень работы супрацоўнікаў міліцыі, трэба сказаць, што колькасць выяўленых асоб, якія ўчынілі злачынствы ў бягучым годзе, павялічылася на 11 працэнтаў. Да крымінальнай адказнасці прыцягнута 8,6 тысячы чалавек.

4,4 тысячы злачынстваў выкрыта ў сферы эканомікі. Па гэтых фактах узбуджана 3,5 тысячы крымінальных спраў. Устаноўлена 2,4 тысячы асоб, якія ўчынілі злачынствы. Учынена больш за тысячу крадзяжоў, трэць з якіх — у асабліва буйных памерах. Выяўлена 125 фактаў хабарніцтва. Мяркую, цікава будзе даведацца і пра тое, што, каб пакрыць прычыненыя злачынцамі страты, накладзены арышт і канфіскавана маёмасці, грошай і каштоўнасцей на суму звыш 5 мільярдаў рублёў. Супрацоўнікамі праваахоўных органаў канфіскавана безакцызных спіртных напояў і тытунёвых вырабаў на суму больш за 800 мільёнаў рублёў, а таксама 3 кілаграмы прамысловага серабра і 25 тон ліставога металу.

Што датычыцца дзейнасці падраздзяленняў па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, адзначу, што гэтай службай у бягучым годзе выяўлена амаль 300 злачынстваў, па якіх узбуджана 270 крымінальных спраў, у тым ліку 90 у адносінах да некалькіх арганізаваных злачынных груп. Супрацоўнікамі раскрыты 4 наўмысныя забойствы, у тым ліку адно «заказное», а таксама выкрыта 26 злачынстваў, звязаных з незаконным захоўваннем і нашэннем зброі. За два месяцы спецыялісты па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю канфіскавалі каштоўнасцей на 2 мільярды рублёў, звыш кілаграма каштоўных металаў, 19 адзінак агнястрэльнай зброі, у тым ліку 2 адзінкі — аўтаматычнай. Па гэтых фактах прыцягнута да адказнасці каля 100 удзельнікаў арганізаваных злачынных фарміраванняў, у тым ліку 20 іх кіраўнікоў. Зараз пад аператыўным наглядам нашых супрацоўнікаў знаходзяцца 192 групы і каля 1200 іх членаў, якія падазраюцца ў злачыннай дзейнасці.

У структуры МУС па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю ў мінулым годзе была створана спецыяльная група, якая займаецца вырашэннем пытанняў, звязаных з угонамі аўтамабіляў. Толькі за мінулы год у рэспубліцы ўгнана 6,5 тысячы аўтамабіляў, у ліку якіх і службовы аўтамабіль прэм'ер-міністра рэспублікі М. Чыгіра. Работа па вышуку ўсіх угнаных аўтамабіляў, безумоўна, вядзецца. Кожны трэці ўгнаны аўтамабіль у мінулым годзе вернуты свайму гаспадару.

**— У апошні час на старонках перыядычных выданняў нямала месца адводзіцца праблеме наркотыкаў. Наколькі востра яна стаіць перад праваахоўнымі органамі рэспублікі?**

— Сітуацыю з абаротам у рэспубліцы наркатычных сродкаў не трэба драматызаваць, але не трэба і замоўчваць. Гэтая праблема існуе, і да яе вырашэння супрацоўнікі органаў унутраных спраў разам з калегамі з іншых праваахоўных ведамстваў прыступілі не сёння і нават не ўчора, а намнога раней.

З пачатку года супрацоўнікамі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю выяўлены 233 злачынствы, звязаныя з наркотыкамі. У зламыснікаў канфіскавана каля 400 кілаграмаў наркатычнай сыравіны.

Злоўжыванне і незаконны абарот наркотыкаў набылі ў Беларусі ў апошняе дзесяцігоддзе шырокі маштаб. Агульны прагноз сітуацыі з наркотыкамі на працягу бліжэйшых гадоў для рэспублікі неспрыяльны і ўзмацняецца негатыўнымі эканамічнымі працэсамі, што адбываюцца ў грамадстве. Зараз у Беларусі адзначаецца прагрэсіруючы рост незаконнага распаўсюджвання наркатычных сродкаў і павелічэнне хворых на наркаманію. За апошнія дзесяць гадоў, напрыклад, колькасць выяўленых злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, павялічылася ў 13 разоў. Аб'ём канфіскаваных наркатычных сродкаў і сыравіны для іх прыгатавання ўзрос амаль у 22 разы і склаў у мінулым годзе паўтары тоны. У 1994 годзе гэта лічба была амаль удвая меншая.

Тэндэнцыя росту такіх злачынстваў характэрна і для мінулага года. У прыватнасці, у 1995 годзе зарэгістравана 1550 злачынстваў, звязаных з наркотыкамі. Гэта больш чым на 7 працэнтаў перавышае паказчык 1994 года. Колькасць наркаманаў, якія ўчынілі злачынствы, узрасла на 15 працэнтаў і склала 1097 чалавек. Трэба адзначыць, што ўсё больш актыўна да злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, далучаюцца жанчыны. Пастаянна павялічваецца колькасць грамадзян, якія стаяць на ўліку як спажываючыя наркотыкі не па медыцынскаму прызначэнню. У мінулым годзе на ўлік пастаўлена амаль 1100 такіх асоб, што на 42 працэнты больш за паказчык мінулага года.

Не радуе і інфармацыя аб тым, што Беларусь усё часцей выкарыстоўваецца злачынцамі для транспарціроўкі наркатычных рэчываў па яе тэрыторыі. Пацверджаннем таму з'яўляецца спыненне 51 спробы кантрабанднага ўвозу-вывазу наркотыкаў агульнай вагой у 370 кілаграмаў, сярод якіх макавая саломка, гашыш, какаін. Сярод канфіскаваных наркотыкаў прысутнічаюць і больш «моцныя» рэчывы: опій, гераін, фенцыклідын.

Аналіз сітуацыі паказвае, што ў рэспубліцы каля чвэрці наркотыкаў канфіскоўваецца ў іншаземных грамадзян. За два мінулыя гады ў рэспубліцы за парушэнне антынаркатычнага заканадаўства затрымана больш за 100 грамадзян з 18 краін.

Трэба прызнаць, што і сама рэспубліка можа з'яўляцца для наркаманаў добрай сыравіннай базай. Пацвердзіць гэта можна знойдзенымі незаконнымі пасевамі маку і канапель. Супрацоўнікі органаў унутраных спраў толькі за год выкрылі больш за 5 тысяч такіх пасеваў на агульнай плошчы каля 17 квадратных кіламетраў. Пры гэтым трэба ўдакладніць, што міліцыянерамі ўпершыню ў мінулым годзе было выкрыта 11 нелегальных пасадак опійнага маку.

У сувязі з наяўнасцю ў рэспубліцы ўласнай базы вытворчасці наркаўтрымліваючай сыравіны і акрамя нелегальнай транспарціроўкі наркотыкаў праз тэрыторыю рэспублікі існуе таксама актыўная ўнутраная нелегальная транспарціроўка наркотыкаў з раёнаў рэспублікі, дзе яна нарыхтоўваецца, у раёны распаўсюджвання і спажывання. Так, у мінулым годзе ў ходзе правядзення аперацыі «Траса» на тэрыторыі Столінскага раёна была затрымана аўтамашына «Жыгулі» з трыма жыхарамі Светлагорска, якія перавозілі 40 кілаграмаў макавай саломкі. Следствам было ўстаноўлена, што яны набылі гэтую сыравіну ў жыхаркі Давыд-Гарадка. У яе знайшлі і канфіскавалі яшчэ больш за 20 кілаграмаў наркаўтрымліваючай сыравіны.

Аб'ектам злачынных замахаў часта становяцца вырабляемыя на прадпрыемствах рэспублікі лекавыя сродкі. Так, супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы ў сярэдзіне мінулага года намеснік начальніка аддзела забеспячэння акцыянернага таварыства «Сукно» Н., у якога было канфіскавана 20 шпрыц-цюбікаў 1-працэнтнага раствору морфію. У ходзе следства было ўстаноўлена, што на працягу месяца 550 шпрыц-цюбікаў з морфіем укралі двое навучэнцаў сталічнага ПТВ, якія праходзілі практыку на заводзе эндакрынных прэпаратаў.

Трэба адзначыць, што крывая злачыннасці на глебе наркаманіі ў апошні час пайшла ўгору. У мінулым годзе асобамі, што знаходзіліся ў стане наркатычнага ап'янення, учынена на 22 працэнты больш злачынстваў, чым гэта было годам раней. 70 працэнтаў злачынцаў, затрыманых у сталіцы за вымаганне, выкарыстоўвалі наркотыкі. Характэрна, што з 12 найбольш уплывовых асоб у злачынным асяроддзі, якія жывуць у рэспубліцы, 8 ужываюць наркотыкі.

Адным з негатыўных вынікаў распаўсюджвання наркаманіі ў рэспубліцы з'яўляецца рост колькасці смяротных выпадкаў сярод спажыўцоў «пякельнага зелля». Калі чатыры гады таму такіх выпадкаў налічвалася чатыры, то ў мінулым годзе — ужо 25. Магчыма, рэальная колькасць памёршых ад ужывання наркотыкаў і большая, бо ў гэтай статыстыцы гаворка ідзе толькі пра тыя выпадкі, калі спажыўцы наркотыкаў стаялі на ўліку ў органах унутраных спраў.

**— Наколькі шырокае распаўсюджанне атрымалі ў рэспубліцы такія злачынствы, як фальшываманецтва?**

— Для адказу на гэтае пытанне звернемся да статыстыкі. У 1990 годзе на тэрыторыі Беларусі быў зарэгістраваны толькі адзін факт фальшываманецтва. Праз год — 129. А пачынаючы з 1993 года ў рэспубліцы намецілася яўная тэндэнцыя да росту злачынстваў, звязаных з вырабам і збытам падробленых грашовых знакаў.

Гэта было прычынай для ўтварэння ў межах апарату па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі спецыялізаваных падраздзяленняў па прадухіленню і раскрыццю злачынстваў у галіне фальшываманецтва. Спецыяльна распрацавалі і ўкаранілі камп'ютэрную праграму ўліку крымінальных спраў. Распрацаваны спецыяльны план дзейнасці супрацоўнікаў праваахоўных органаў, які атрымаў назву «Купюра».

Прынятыя меры дазволілі ў мінулым годзе спыніць спробу двух грамадзян Арменіі збыць у Гродне буйную партыю падробленых грашовых знакаў банка Расіі вартасцю 50 тысяч рублёў. Тады высветлілася, што гэтая партыя фальшывак у некалькі мільёнаў рублёў была дастаўлена на Беларусь са Смаленска, дзе іх распаўсюджваннем займалася група асоб з Дагестана. Па гэтаму выпадку трое грамадзян Арменіі і адзін грамадзянін Польшчы былі асуджаны на розныя тэрміны пазбаўлення волі.

У канцы мінулага года там жа, у Гродне, супрацоўнікі міліцыі затрымалі раней судзімага грамадзяніна Расіі, у якога было канфіскавана фальшывых купюр Нацыянальнага банка Расійскай Федэрацыі на агульную суму 40 мільёнаў.

Высокім «майстэрствам» у падробцы расійскіх грашовых знакаў «парадавалі» супрацоўнікаў праваахоўных органаў рэспублікі і двое грамадзян Польшчы. Паведамленне аб фальшыўках прыйшло з абменнага пункта валюты «Комплексбанка», зноў жа з Гродна. Як і належыць у такім выпадку, быў уведзены ў дзеянне тыповы план «Купюра». Пры чарговай спробе збыту буйной партыі фальшывых грашовых знакаў у гасцініцы «Гродна» былі затрыманы двое грамадзян Беларусі, якія ў час следства пацвердзілі, што канфіскаваныя ў іх грашовыя знакі былі атрыманы ў двух жыхароў Беластока. Якасць падробкі была настолькі высокай, што з дапамогай спецыяльных тэстэраў, якімі забяспечаны абменныя пункты валюты, выявіць паддзелку аказалася справай няпростай. З улікам гэтых абставінаў па маршруту верагоднага руху затрыманых былі даследаваны іншыя абменныя пункты і выкрыты яшчэ тры факты збыту аналагічных падробленых грошай, пра існаванне якіх супрацоўнікі і не здагадваліся.

З дапамогай пагранічнікаў, а таксама мытнікаў Беларусі і Польшчы на кантрольна-прапускным пункце «Брузгі» для фальшываманетчыкаў дзвюх рэспублік была праведзена вочная стаўка, якая дапамагла расставіць усе кропкі над «і».

Апошні факт затрымання фальшываманетчыкаў адбыўся 19 сакавіка ў Віцебску. На момант затрымання ў аднаго з правапарушальнікаў была канфіскавана сума ў памеры 3 мільёнаў расійскіх рублёў. Вялікай «папулярнасцю» ў фальшываманетчыкаў карыстаецца не толькі валюта Расійскай Федэрацыі ці долары ЗША, але і айчынныя «зайчыкі».

## КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

### АДНЫХ «АБУВАЮЦЬ», ДРУГІХ ПОЯЦЬ СВІНЦОМ

**Нават такое славутае прадпрыемства, як беларуска-германскае СП «Белвест», можа абуваць сваіх пакупніц у туфлі, ад якіх калготкі становяцца сінімі. У гэтым пераканаліся галоўныя інжынеры і начальнікі АТК прадпрыемстваў Віцебска, сабраўшыся на семінар у гарвыканком, прысвечаны пытанням якасці прадукцыі.**

На выстаўцы браку, арганізаванай тут супрацоўнікамі мясцовага Цэнтра стандартызацыі і метралогіі (ЦСМ) побач з ліняючымі туфлямі красаваўся хлеб, «нафаршыраваны» запалкамі, закатачная машынка з вострымі задзірынамі суседнічала з бляшанкай імпартнай растваральнай кавы, якая спяклася як смала.

З даклада намесніка начальніка ЦСМ Аліны Караткевіч вытворцы даведаліся, што пакуль яны спрабуюць збыць пакупнікам свой няякасны тавар, на малочнай кухні іх дзецям адпускаюць прадукты з трохразовым перавышэннем утрымання свінцу, а ў магазіны з малочнага камбіната вязуць тварог з двайным перавышэннем кадмію і цынку.

Удзельнікі семінара прынялі рашэнне адрадзіць спаборніцтвы па якасці сярод прадпрыемстваў горада, распаўсюдзіць сістэму аплаты працы па паказчыках якасці, якая паспяхова дзейнічае ў ВА «Электравымяральнік». Савету прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў прапанавана разгледзець пытанне аб стварэнні пры ім гарадскога цэнтра дызайну прадукцыі.

**Аляксандр ТУЛБУСАЎ.**

### АДПРАЎЛЕННЕ ЦЯГНІКА ЗАТРЫМЛІВАЕЦЦА...

**Двойчы вызначыліся на мінулым тыдні гродзенскія пагранічнікі, якія нясуць службу на чыгуначным вакзале абласнога цэнтра.**

Прычым абодва разы кантрабандным таварам былі іконы, якія хаваліся ў цягніку «Санкт-Пецярбург — Варшава». Спачатку прапаршчыкі А. Бесарабаў, М. Арэхва, малодшыя сяржанты В. Хільмановіч, А. Вінчо адшукалі ў міжсталевай прасторы трох купэ 29 ікон (паводле папярэдніх ацэнак, іх кошт складае 23 мільёны 630 тысяч рублёў). А праз тры дні, дзякуючы пільнасці прапаршчыка А. Котава і старшага сяржанта С. Шчэрбы, праз мяжу не прапусцілі 37 ікон. Каб дастаць іх з той жа міжстолевай прасторы, давялося на 20 хвілін затрымаць адпраўленне цягніка. Што ж датычыць кантрабандыстаў, дык яны, як заўсёды, не захацелі афішыраваць сваю прысутнасць.

Дарэчы, сёлета гродзенскія пагранічнікі адшукалі ў цягніках ужо 86 ікон. Гэта больш, чым за ўвесь мінулы год.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

### СПАТРЭБІЛІСЯ З «МАЗЫ». НАВОШТА?

У Першамайскі РАУС Віцебска звярнуліся двое вадзіцеляў аднаго з магілёўскіх малых прадпрыемстваў і іх калега з камерцыйнай фірмы г.Бялынічы з заявай, што невядомы з мэтай афармлення дакументаў на атрымліваемы груз, (як яны патлумачылі, абутак фірмы «Белвест») завабіў іх у пустую кватэру на праспекце Перамогі. Тут іх «няветліва» сустрэлі людзі ў масках, збілі і звязалі. Пасля гэтага невядомыя ўкралі тры парожнія машыны «МАЗ» і на іх зніклі. З мэтай затрымання зламыснікаў віцебскай міліцыяй былі разасланы аператыўныя арыентыроўкі ў УУС абласцей рэспублікі. У выніку гэтых мерапрыемстваў праз 7 гадзін работнікамі ўчастка дарожнай міліцыі Гомельскага РАУС у пасёлку Калініна названыя аўтамашыны былі затрыманы. Следству разам з іншымі пытаннямі трэба будзе высветліць, для якой мэты злачынцам спатрэбіліся 3 аўтамашыны «МАЗ».

### АЙЧЫМ-ГВАЛТАЎНІК

**Павялічваецца колькасць зарэгістраваных фактаў згвалтавання. У сакавіку ў рэспубліцы ўжо зафіксавана 40 выпадкаў.**

Разам з іншымі прычынамі, звязанымі з гэтым, з'яўляюцца яўныя псіхічныя расстройствы гвалтаўнікоў. Так, 26 сакавіка ў Мазырскі ГРАУС звярнулася 27-гадовая медработніца. Яна заявіла, што яе дачку, вучаніцу 5-га класа, згвалтаваў 34-гадовы айчым. Падазраваемага затрымалі. Вядзецца разбор..

**Васіль КУРЛОВІЧ.**

# Уладзімір Жырыноўскі мяняе думкі адносна беларускага Прэзідэнта, але не суверэнітэту

*Калі мне прапанавалі паехаць у Дзяржаўную думу Расіі, каб сустрэцца з лідэрам ліберал-дэмакратаў Уладзімірам Жырыноўскім і, магчыма, лідэрам камуністаў Генадзем Зюганавым, я адразу не змог вызначыцца. Так, у мяне ёсць чалавечыя сімпатыі і антыпатыі да асобных людзей, але ў гэтым выпадку перамагла журналісцкая цікавасць. Перамагло жаданне адчуць атмасферу ў парламенце Расіі якраз у дзень падпісання вядомых дакументаў, «ужывую» пагутарыць з некаторымі расійскімі ўплывовымі палітыкамі, у тым ліку з кандыдатамі ў прэзідэнты Расійскай Федэрацыі. Што датычыцца атмасферы, то доўга распавядаць не буду. Заўважу толькі, што размерана- актыўны лад жыцця дэпутатаў быў парушаны згаданымі падзеямі. Большасць дэпутатаў першую палову дня 2 красавіка былі ў Крамлі на цырымоніі падпісання дакументаў. У той жа час нават у думскім буфеце можна было пачуць імя Аляксандра Лукашэнкі і назву «Беларусь». Ацэнкі падзей былі, дарэчы, самымі процілеглымі, хаця выказваліся пераважна адабрэнне і чаканне працягу пачатай справы.*

*На жаль, тое, што адбылося ў Крамлі, паўплывала на мае журналісцкія планы. Напрыклад, Г. Зюганаў адмовіўся з кім-небудзь сустракацца ў гэты дзень наогул, а Р. Яўлінскага знайсці так і не ўдалося. Такім чынам, адзіным суразмоўцам аказаўся Уладзімір Жырыноўскі. Сёння прапаную чытачам «Звязды» частку гутаркі з ім. Дарэчы, на сустрэчы прысутнічалі яшчэ трое маіх калег з беларускіх сродкаў масавай інфармацыі.*

**— Уладзімір Вольфавіч, вы прысутнічалі сёння на цырымоніі падпісання дагавора аб утварэнні новай садружнасці дзяржаў — Расіі і Беларусі. Якія ў вас засталіся ўражанні ад гэтай падзеі?**

— Гэта быў добры дзень. Прыемна было бачыць вашу дэлегацыю. Па пратаколу яна павінна была сядзець у Георгіеўскай зале Крамля злева, а справа — расійская. Але пратакол адразу быў парушаны; селі ўсе разам. А калі прыйшлі два прэзідэнты, я, звяртаючыся да тых, хто сабраўся, сказаў: «Вось два флагі стаяць. Дык няхай будзе адзін». Адным словам, атмасфера была вельмі цёплая і дабрадушная. Не было ніякай варожасці. Усе адчувалі сябе сябрамі, прыхільнікамі адной ідэі і грамадзянамі адной краіны. А наогул, гэта свята для нас. Не простае свята, а можа нават нацыянальнае ці дзяржаўнае. Абодва прэзідэнты выдадуць адпаведныя ўказы, згодна з якімі дзень 2 красавіка будзе аб'яўлены агульным дзяржаўным святам. У перспектыве яно стане галоўным святам у Расіі і ў Беларусі. І нават тыя, хто далучыцца да новай Садружнасці, будуць святкаваць гэтую дату як дзень утварэння новага супольніцтва. Так што сённяшні дзень быў вельмі добры.

**— Калісьці вы выказвалі думку, што Беларусь павінна стаць Паўночна-Заходнім краем ці нават губерняй Расіі. У гэтым сэнсе сённяшнія падзеі можна лічыць частковай рэалізацыяй вашай мэты?**

— Мы лічым, што ўсё павінна будавацца на раўнапраўнай аснове. Ніхто не збіраецца прыніжаць нічыёй ролі... У нас вельмі блізкія адносіны, паміж намі няма варожасці. Таму размова не ідзе аб тым, каб увесці нейкае тэрытарыяльнае дзяленне. Калі мы пагодзімся на адзінае прававое поле, аднолькавыя законы, якія будуць дзейнічаць на тэрыторыі абедзвюх дзяржаў, калі мы прыйдзем да адзінай грашовай сістэмы, калі ў нас будуць адзіныя ўзброеныя сілы, транспарт, сувязь, то ў выніку і атрымаем усё адзінае. І няхай слова «Беларусь» гучыць тады гэтак жа, як сёння гучыць «Волагда». Як гэта ўжо будзе называцца — не будзе мець ніякага значэння. У аддаленай перспектыве мы можам нават прыйсці да такой сітуацыі, калі ў нас будзе сваё ўсходнееўрапейскае супольніцтва, куды ўвойдуць усе славяне. І калі нават аб'яднаюцца толькі Расія, Беларусь і Украіна, то таксама не будзе мець значэння, як гэта аб'яднанне будзе называцца. У нас будуць нават адзіныя сімвалы.

**— Дарэчы, які сёння флаг вы прапаноўвалі зрабіць агульным?**

— Там абодва стаялі: ваш і наш. Агульны колер толькі чырвоны, але я думаю, нашы і вашы спецыялісты па сімволіцы нешта агульнае знойдуць. Мне ж асабіста больш падабаецца Андрэеўскі сцяг.

**— Як на Беларусі, так і ў Расіі ёсць думка, што сённяшняе паскарэнне інтэграцыі не адпавядае сапраўднаму жаданню абодвух народаў, а стала элементам палітычнай перадвыбарнай гульні. Прычым у гэтай гульні Прэзідэнт Лукашэнка гуляе за каманду кандыдата Ельцына.**

— А гэта заўсёды так робіцца, на жаль. Праўда, на гэты раз акалічнасці супалі, паколькі нашы народы сапраўды хочуць аб'яднання. А паскарэнне адбываецца тады, калі гэта выгадна, скажам, Лукашэнку (ад гэтага саюза выйграе Беларусь, бо атрымае надзейныя пастаўкі энергарэсурсаў з Расіі), а таксама Ельцыну (працэс інтэграцыі і кансалідацыі падніме яго палітычны рэйтынг напярэдадні выбараў). Таму прэзідэнцкія выбары наогул паскараюць усе працэсы ў дэмакратычнай дзяржаве. Дарэчы, сённяшняе свята ў Крамлі чым цудоўнае? Тым, што два народы без выстралаў і без салдат дамовіліся, як ім жыць далей. Няхай пакуль гэта не будзе адзіная дзяржава, але гэта ўжо не СНД, а новая прыступка да новага дзяржаўнага аб'яднання. Вядома, і асабістае тут ёсць, бо кожны чалавек — эгаіст. Тым больш палітык, які імкнецца нешта зрабіць, каб пра яго гаварылі, каб пакінуць след у гісторыі.

**— Вы размаўлялі з Лукашэнкам сёння?**

— Так, мы гутарылі з ім там жа, у Крамлі. Я ўпершыню сустрэўся напрамую з Аляксандрам Рыгоравічам. Нашы сталы стаялі вельмі блізка, і ў нас была магчымасць пагаварыць. Мы нават абняліся і пацалаваліся.

**— Уявім, што на выбарах адным з вашых сапернікаў стаў Аляксандр Лукашэнка. Якой была б ваша тактыка і наколькі ён сур'ёзны для вас сапернік?**

— Вядома, мне не хацелася б з ім сустрэцца, бо ён зрабіў тыя самыя крокі насустрач, актывізаваў інтэграцыю, паскорыў аб'яднальныя працэсы. Аляксандр Лукашэнка — гэта імя. Гэтае імя будзе мець асобнае значэнне ў гісторыі нашых краін канца XX стагоддзя.

**— Вам не здаецца, што ваш імідж і імідж Лукашэнкі нечым падобныя: абодва імпульсіўныя і непрадказальныя?**

— Магчыма, і так. Лічу, што гэта нармальная з'ява. Паглядзіце, ва ўсіх рэгіёнах былога СССР з'яўляюцца падобныя людзі. Таму мне Аляксандр Рыгоравіч сімпатычны з усіх бакоў. Я не магу сказаць нічога адмоўнага пра яго. Прыемны чалавек.

**— Дарэчы, а куды падзелася апошнім часам ваша асабістая імпульсіўнасць?**

— Закончыўся страшны перыяд, калі ўсё рушылася. Пачаўся працэс збірання камянёў. Да таго ж, я бачу падзенне камуністаў — галоўнага майго саперніка, аслабленне дэмакратаў — таксама сур'ёзнага саперніка. А ў такіх умовах мне цяжка быць напорыстым, я станаўлюся спакойным.

**— У вас няма апасення, што Прэзідэнт Беларусі, які з'яўляецца аўтарам ідэй рыначнага сацыялізму, паспрабуе ўвесці яго элементы ў расійскую эканоміку? Наколькі вядома, эканамічныя падыходы вашай партыі крыху іншыя.**

— Няхай спрабуюць эксперыментаваць, абы толькі не было чалавечых ахвяр. Што атрымаецца — рыначны сацыялізм ці дзяржаўны капіталізм — убачым. Я ўжо прапаноўваў у Думе ідэю працягваць у адным раёне будаваць камунізм, а ў суседнім пачаць будаваць капіталізм. Потым параўналі б. Таму я нічога не баюся. Я перакананы, што і вашы хлопцы дадуць фору Захаду, бо там баяцца, што новыя рускія і новыя беларускія бізнесмены пры любой эканамічнай сістэме дасягнуць поспехаў.

**— Якой, на вашу думку, будзе расклад палітычных сіл у Расіі напярэдадні выбараў?**

— Я мяркую, што прыблізна аднолькавая колькасць людзей будзе гатова аддаць галасы за Зюганава, мяне і Ельцына —прыкладна па 17 мільёнаў. Але ўсё вырашаць апошнія дні і паводзіны нашай моладзі. Таму сёння мы робім стаўку менавіта на моладзь. Калі мы зможам «разбудзіць» хаця б 10 мільёнаў маладых людзей, то зможам перамагчы.

**— Апошнія аб'яднальныя ініцыятывы не стануць падставай для адмены выбараў у Расіі, каб праз нейкі час абраць адзінага кіраўніка?**

— Не. Я мяркую, што выбары адбудуцца. Але ёсць рызыка, што яны могуць быць адкладзены па іншых прычынах. Скажам, калі будзе ўскладняцца сітуацыя ў Чачні, калі прыйдзецца ўвесці надзвычайнае становішча.

**— З кім вы хацелі б сустрэцца ў другім туры выбараў?**

— Мне больш выгадна сустрэцца з Ельцыным, паколькі ён слабейшы сапернік. У той жа час Зюганаў не знаходзіцца ва ўладзе, таму яго прыход непажаданы для многіх. А наогул, мне ўсё роўна, з кім сустракацца. Праўда, з Ельцыным я ўжо ўдзельнічаў у мінулых выбарах, таму можна ўвесці «дзедаўшчыну», выкінуць новенькіх, а з Ельцыным дамовіцца.

**— Нядаўна ў Беларусі прайшлі чуткі, што У. Жырыноўскі зніме сваю кандыдатуру на карысць Ельцына. Вы можаце пацвердзіць гэта?**

— Я не збіраўся ніколі такога рабіць, хіба толькі калі мы дамовімся з ім аб падзеле ўлады. Але аб зняцці размовы не ідзе і думак такіх не было.

**— Наколькі рэальная падтасоўка вынікаў выбараў у Расіі?**

— У адносінах да нас гэта малаверагодна. Але палітыка — гэта свайго роду гандаль, таму за чыстымі лістамі пратаколаў, безумоўна, штосьці застанецца. Таму калі падтасоўкі і будуць, то не на карысць камуністаў. Не хвалюйцеся, што яны прыйдуць да ўлады ў Расіі! З цягам часу і вашы беларускія камуністы, больш мяккія, супакояцца і пачнуць пераходзіць у ЛДП.

**— Дарэчы, які ўплыў аказвае ЛДПР на ЛДПБ?**

— Ведаеце, ЛДПБ — адзіная партыя за межамі Расіі, з якой у нас склаліся найбольш цёплыя і блізкія адносіны. Так атрымалася, што менавіта з беларусамі ў нас поўная ўзаемаразуменне. Іншы раз нават не адчуваецца, што гэта замежная партыя. Мы наладжваем раўнапраўныя адносіны.

**— Пры збліжэнні дзвюх краін застаецца вялікая верагоднасць таго, што ў выніку аб'яднання армій беларускія салдаты будуць служыць у Чачні.**

— Я мяркую, што з Чачнёй мы закончым. Ва ўсякім разе, пасля 16 чэрвеня поўнасцю і канчаткова. А да выбараў ніякага аб'яднання армій не будзе, таму няхай вашы хлопцы не хвалююцца. Праўда, ім не пашкодзіла мець нейкі палігон, дзе б яны маглі праявіць сябе, адчуць пах пораху і ўбачыць сапраўдную вайну. Гэта карысна, армія павінна ўдзельнічаць у ваенных дзеяннях. А што датычыцца Чачні, то там будзе скончана. Патрэбен толькі сілавы варыянт.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў МІНСКУ ПРАЙШЛІ БЕЗ СУТЫКНЕННЯЎ

**2 красавіка пасля падпісання прэзідэнтамі Расіі і Беларусі ў Маскве дагавора аб стварэнні Супольнасці Суверэнных Рэспублік (ССР), у Мінску прайшлі несанкцыянаваныя масавыя дэманстрацыі пратэсту. Паводле розных ацэнак у іх прынялі ўдзел ад 30 да 50 тысяч чалавек.**

Афіцыйна гэтыя мерапрыемствы планавалася правесці як пікет у абарону незалежнасці Беларусі і сустрэчу з дэпутатамі Паўлам Знаўцам і Паўлам Данейкам. Абедзве гэтыя акцыі планавалася правесці 2 красавіка ў 17.00 на плошчы Незалежнасці.

Аднак напярэдадні арганізатары гэтых акцый атрымалі паведамленне з Мінгарвыканкома аб забароне іх правядзення. Паведамлялася таксама, што дэпутаты могуць сустрэцца з выбаршчыкамі ў актавай зале інстытута «Белгіправадгас».

Тым не менш, да назначанага часу людзі з бела-чырвона-белымі сцягамі падышлі да подступаў да плошчы Незалежнасці. Карэспандэнту «Звязды» яшчэ а палове чацвёртай не ўдалося трапіць на галоўную плошчу беларускай сталіцы: выхад з метро быў блакіраваны міліцыяй, вуліцы, што вядуць да плошчы Незалежнасці, былі перакрыты міліцыяй і АМОНам, а таксама грузавікамі. Аднак, нягледзячы на тое, што і на плошчы Незалежнасці, і ля Палаца спорту, і ў іншых месцах, дзе праходзілі пазаўчора дэманстранты, было незвычайна шмат сіл аховы правапарадку, — сур'ёзных сутыкненняў дэманстрантаў з імі не адбылося. Відаць, кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў і спецпадраздзяленняў улічыла вопыт 24 сакавіка і вырашыла пазбегнуць бойкі, якая выклікала негатыўны рэзананс у беларускім грамадстве і за мяжой. Аднак апасенні, што такая бойка магчыма, былі вялікія. Па Беларускім радыё 2 красавіка неаднаразова гучалі папярэджанні аб тым, што дэманстранты могуць быць разагнаны сілай. Нягледзячы на такія вось папярэджанні, да 17.00 да Мінскага паштамта прыйшло прыкладна 10 тысяч чалавек. Іх спынілі кардоны міліцыі і спецназа. Пасля 20 хвілін псіхалагічнага процістаяння натоўпу пратэстуючых і кардонаў спецслужбаў дэманстранты паслухаліся міліцыі і вырашылі ісці да інстытута «Белгіправадгас». Менавіта на праспекце Скарыны была найбольшая верагоднасць сутыкненняў, і адсюль многія журналісты заходніх тэлекампаній перадавалі свае рэпартажы. Пасля таго як дэманстранты з бела-чырвона-белымі сцягамі і лозунгамі прайшлі па вуліцах горада да названага інстытута, выявілася, што ніхто іх там не чакае, ды і не можа змясціцца ў актавай зале некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Таму сярод дэманстрантаў спантанна выспела рашэнне пайсці да Палаца спорту, дзе 31 сакавіка левыя сілы правялі свой мітынг у падтрымку саюза з Расіяй. Такім чынам шматтысячная дэманстрацыя прайшла па вуліцах Мінска некалькі кіламетраў і зусім не разгубіла сваіх удзельнікаў. Каля Палаца спорту адбыўся мітынг, на якім выступілі дэпутаты, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. На мітынгу была прынята рэзалюцыя і зварот да Вярхоўнага Савета Беларусі. У рэзалюцыі, у прыватнасці, зазначаецца, што грамадзяне «пакідаюць за сабой права абараняць незалежнасць Беларусі». У звароце да Вярхоўнага Савета, які быў прыняты па ініцыятыве ўдзельнікаў мітынгу, падкрэсліваецца патрабаванне да парламента «заўсёды памятаць, што страта дзяржаўнасці Беларусі пазбаўляе перспектывы наступныя пакаленні яе жыхароў», і выказана патрабаванне не ратыфікаваць падпісаны ў Маскве дагавор. Лозунгам, які найбольш ахвотна скандзіравалі на мітынгу, былі словы: «Моладзь — за Беларусь».

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**• ЕЛЬЦЫН АТРЫМАЎ ПАСВЕДЧАННЕ КАНДЫДАТА Ў ПРЭЗІДЭНТЫ**

Рэгістрацыя Барыса Ельцына ў якасці кандыдата ў прэзідэнты Расіі на маючых адбыцца выбарах адбылася ўчора ў другой палове дня. Як паведаміў старшыня Цэнтрвыбаркома, Ельцын, як і іншыя прэтэндэнты, асабіста прыбыў у Цэнтрвыбарком для атрымання пасведчання кандыдата. Тым часам прэзідэнт Клінтан заявіў, што яго адміністрацыя не будзе падтрымліваць каго-небудзь з кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі. А са слоў Клінтана, ЗША падтрымліваюць працэс рэформаў у Расіі, аднак выступаць на баку аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты для Вашынгтона непрымальна.

**• СЛЕДЧЫЯ СПРАБУЮЦЬ ЗНАЙСЦІ «СЛЯДЫ» ТЫСЯЧ СЕРБАЎ**

Група следчых міжнароднага трыбунала па ваенных злачынствах у Гаазе зараз знаходзіцца ў Босніі, каб правесці збор сведчанняў пра злачынствы ў баснійскім горадзе Срэбраніцы. Праца пачалася ўчора. Падчас захопу Срэбраніцы мусульманамі тысячы сербаў зніклі без вестак.

**• ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ ЗАВІНАВАЦІЛІСЯ ААН БОЛЬШ ЯК 1,5 МІЛЬЯРДА ДОЛАРАЎ**

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый абвясціла аб скарачэнні свайго штату на 10 працэнтаў. Да канца 2000 года ў штаце застанецца ўсяго 800 чалавек. За ўсю сваю 50- гадовую гісторыю ААН перажывае самы істотны крызіс. Краіны-ўдзельніцы завінаваціліся арганізацыі каля 3 мільярдаў долараў. Самы вялікі доўг у Злучаных Штатаў, якія павінны больш як 1,5 мільярда долараў.

**• НА ШЛЯХУ ЎВЯДЗЕННЯ АДЗІНАЙ ВАЛЮТЫ ШМАТ ПРАБЛЕМ**

Урад Брытаніі зноў пацвердзіў, што ў выпадку прыняцця рашэння аб далучэнні да агульнаеўрапейскай валюты, гэта пытанне будзе вынесена на ўсенародны рэферэндум. Права на канчатковае рашэнне пакідаецца за грамадзянамі Брытаніі. Карэспандэнт Бі-бі-сі паведамляе, што міністрам дадзена заданне падрыхтаваць справаздачу па гэтым пытанні. Брытанія, як і Данія, не спяшаецца з далучэннем да адзінай валюты ў той час, як 13 еўрапейскіх краін, ужо вырашылі ўвесці адзіную грашовую сістэму ў 1999 годзе. Аднак зноў з'явіліся сумненні наконт Францыі і Германіі, дзе рэзка павялічваецца ўзровень беспрацоўя.

**• ЭЛЕКТРЫК ВАЛЕНСА ЕЗДЗІЦЬ НА ПРАЦУ Ў «МЭРСЕДЭСЕ» З ШАФЁРАМ І ЦЕЛААХОЎНІКАМІ**

Былы прэзідэнт Польшчы Лех Валенса вярнуўся ў аўторак на ранейшую працу ў якасці электрыка на Гданьскую суднаверф. Ён прыехаў на працу ў серабрыстым браніраваным «Мэрсэдэсе» з шафёрам у суправаджэнні новых целаахоўнікаў, якія, дарэчы, зарабляюць у два разы больш за электрыка Валенсу. Справа ў тым, паведаміла міжнароднае французскае радыё, што Канстытуцыяй Польшчы не прадугледжана прадастаўленне пенсіі былым прэзідэнтам, затое за імі захоўваюцца службовая машына і целаахоўнікі.

**• ГОРАД СВАБОДНЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

Гётэборг стаў першым у Швецыі свабодным горадам, які гатовы даваць прыстанішча пісьменнікам усяго свету, якія праследуюцца ўладамі. Першы з іх (імя не называецца) прыбудзе ў Гётэборг у жніўні і будзе жыць там на працягу года ў кватэры, якую аплацяць гарадскія ўлады.

**• ЗБІЛІ ЗА ПЕРАВЫШЭННЕ СКОРАСЦІ**

Мексіка звярнулася з пратэстам да амерыканскага ўрада ў сувязі з тым, што амерыканскія паліцэйскія збілі двух эмігрантаў з Мексікі — мужчыну і жанчыну. Гэты факт быў зазняты на відэастужку. Пацярпеўшыя былі затрыманы за перавышэнне скорасці. Мексіка патрабуе судовага расследавання па гэтай справе. Вашынгтон заявіў, што прэзідэнт Клінтан будзе ўважліва сачыць за вырашэннем гэтай праблемы, а ў міністэрства юстыцыі было накіравана заданне ад ФБР правесці дэталёвае расследаванне.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», радыё «101,2» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Ізраільская паліцыя арыштавала Наіда Бахіры за падробку пасведчанняў асобы. І са здзіўленнем выявіла, што гэты самы Бахіры павінен не гуляць на волі, а яшчэ з 1979 года адбываць пажыццёвае зняволенне па абвінавачанню ў забойстве.

Аднак, як мяркуе зараз паліцыя, пры афармленні яго справы адбылася нейкая памылка, і ў рэшце рэшт Бахіры быў адпраўлены ў турму па абвінавачанню ў рабаванні. Праз сем гадоў ён быў вызвалены датэрмінова — за добрыя паводзіны. Цяпер яго зноў пасадзілі за краты.

**ІТАР-ТАСС.**

1 мільён 600 тысяч раненых і 44 тысячы загінуўшых — такі трагічны вынік «бітваў» на аўтадарогах Еўрапейскага саюза. Гэта даныя за 1994 год, але наўрад ці яны істотна змяніліся ў мінулым годзе.

Па колькасці аварый са смяротным зыходам лідзіруе Бельгія: 151 выпадак на кожны мільён насельніцтва. За ёй ідуць Францыя — 147 загінуўшых, Іспанія (142), Германія(119), Ірландыя (114). У Італіі, дзе аўтамабілісты адрозніваюцца схільнасцю да ліхацтва, гэты трагічны паказчык роўны 107.

**«Труд».**

Чацвёрты год у кватэры прадпрымальніка Хары Прасада, які жыве ў індыйскім горадзе Калькута на 8-м паверсе шматпавярховага дома, разам з дамачадцамі мірна жыве любіміца сям'і... карова Шэрні (Ільвіца). У дзень шлюбу Хары разам з нявестай прывелі ў хату і рагулю. Гаспадару нічога не заставалася, як прыняць падарунак. Паколькі ў доме, дзе жыве Хары Прасад, няма ліфта, карову прыйшлося зацягваць на 8-ы паверх літаральна на руках. З таго часу яна так і жыве ў адным з адведзеных для яе пакояў.

**ІТАР-ТАСС.**

# «ПАКОЛЬКІ МАЯ ЖОНКА ЎЖО САМА АПРАЎДВАЦЦА І АБАРАНЯЦЦА НЕ МОЖА...»

**АРХІВЫ часта робяць сапраўдныя падарункі. І не іх віна, што падарункі бываюць сумнымі. Як вось гэтыя два гаротныя пісьмы на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкі ад чалавека шырока вядомага ў рэспубліцы — Мікалая Сямёнавіча Арэхвы. Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Беларускі Чэ Гевара, ён таксама нёс ідэю сусветнай рэвалюцыі, толькі на гэты раз у «Крэсах Усходніх». І правёў у глыбокім падполлі 14 гадоў. Быў адным з кіраўнікоў ЦК КПЗБ. Пазней — адзін з найбольш аўтарытэтных даследчыкаў гісторыі Заходняй Беларусі, стварыў цэлую навуковую школу па гэтай праблеме. І проста чалавек складанага і цікавага лёсу. Прачытаем гэтыя два дакументы, яны таго заслугоўваюць.**

***Пісьмо першае, ад 2 лютага 1940 года.***

*«У той час, калі я знаходзіўся на падпольнай партыйнай рабоце за мяжой, будучы пасланым туды Камінтэрнам, органы НКУС у Мінску 23.IX.1937 г. арыштавалі маю жонку Ваяводскую Алену Лявонаўну, якая жыла ў маёй кватэры па Паштовай вул. 28, кв. 2. Паўтарагадовую дачку Ларысу пакінулі без нагляду, рэчы забралі, кватэру аддалі іншым.*

*Па атрыманай мною ўчора, 1.II, даведцы тут, у НКУС, я даведаўся, што мая жонка ўжо 5.XI таго ж 1937 г., г. зн. праз сорак дзён пасля арышту была асуджана на 10 гадоў з высылкай у аддаленыя раёны СССР без права перапіскі па 68-м артыкуле.*

*Мне невядомы ні фармулёўка абвінавачання, ні матывы прыгавору, таму я не маю магчымасці іх абвергнуць.*

*Ведаючы сваю жонку Ваяводскую А. Л. як сумленнага чалавека і адданую камуністку, я мяркую, што яе арышт і асуджэнне на 10 гадоў па 68-м артыкуле былі ці справай замаскіраваных ворагаў народа, ці адбылося гэта па недаўменню пры ліквідацыі тады ў Мінску некаторых устаноў, звязаных з камуністычным рухам у Заходняй Беларусі.*

*Сапраўднае прозвішча маёй жонкі Смірніцкая Ніна Лявонаўна. Утойваць гэта сваё прозвішча перад партыяй і савецкай уладай ёй не было ніякай неабходнасці. Яе бацькі — працоўныя людзі: бацька доўгія гады працаваў рахункаводам у адным крэдытным таварыстве і з'яўляўся членам прафсаюза гандлёва-прамысловых служачых, маці — хатняя гаспадыня.*



*Згодна з умовамі работы ў рабочым і камуністычным руху ў Вільна, а ў далейшым — вучобы ў КУНМЗе ў Маскве і па месцы пражывання ў маёй кватэры ў Мінску, мая жонка, натуральна, магла мець і, відаць, мела, у ліку маіх і сваіх знаёмых, людзей, якія... ратуючы сябе, маглі ўзвесці на яе паклёп.*

*Той факт, што мая жонка, будучы арыштаванай 23.IX.1937 г., ужо 5.XI таго ж года, г. зн. праз 40 дзён, была асуджана, сведчыць аб тым, што сур'ёзнага следства і ўважлівага высвятлення ўсіх акалічнасцей справы быць не магло. Ніякіх тлумачэнняў з боку абвінавачваемай, відаць, выслухоўваць і браць пад увагу не сталі.*

*На падставе ўсяго вышэйсказанага прашу даць ход перагляду справы маёй жонкі Ваяводскай Алены Лявонаўны і вызваліць яе з месцаў зняволення».*

Растлумачым чытачу: гэта пісьмо Арэхва напісаў Панамарэнку, вярнуўшыся пасля шматгадовай работы ў падполлі. Вяртаўся героем да хатняга ачага, а вярнуўся...

У нацыянальным архіве РБ знаходзяцца на захаванні ўспаміны М. С. Арэхвы. Вось што гаворыцца ў іх адносна пачуццяў пры вяртанні на Радзіму: «У студзені 1940 года вярнуўся ў Мінск — свой горад, дзе, ад'язджаючы апошні раз у падполле, пакінуў жонку і дачку, свой сямейны ачаг. Тут, пятнаццаць гадоў таму, развітаўшыся з камсамольскім юнацтвам, таксама ў студзені, па накіраванню ЦК КП(б)Б праз Камінтэрн упершыню ішоў у заходнебеларускае партыйнае падполле, насустрач свайму лёсу. І вось, прайшоўшы скрозь варожыя віхуры, вярнуўся «дадому», але ўжо як прыватная асоба, і... аказаўся адвергнутым».

Але яшчэ больш жахнуўся Мікалай Сямёнавіч, калі даведаўся праўду.

***Ліст ад 3 красавіка 1940 года.***

*«У сваёй заяве Вам ад 2.II.1940 г. я хадайнічаў аб садзейнічанні ў пераглядзе справы і вызваленні з месцаў няволі маёй жонкі Ваяводскай Алены Лявонаўны, арыштаванай НКУС у Мінску ў 1937 г. у той час, калі я знаходзіўся за мяжой на падпольнай партыйнай рабоце. Цяпер ужо вызваліць і вярнуць яе немагчыма. 31 сакавіка ў пракуратуры БАВА я даведаўся, што мая жонка ў хуткім часе пасля арышту была расстраляна. Я вельмі здзіўлены, чаму прадстаўнікі НКУС БССР хлусілі, калі паведамлялі, што Ваяводская А. Л. 5.XI. асуджана на 10 гадоў без права перапіскі. Хацелі ўтаіць?*

*...Мая зацікаўленасць у лёсе Ваяводскай не была беспадстаўнай: яна — мая жонка і маці нашага дзіцяці, цяпер сіраты. Яго выхоўваюць мае бацькі. Я меў права даведацца праўду адразу.*

*Хоць яна ўжо расстраляна, я падаў заяву пракурору БАВА з хадайніцтвам аб пераглядзе яе справы і аб яе рэабілітацыі. Я рашуча настойваю, каб мне паведамілі факты, якія паслужылі падставай для асуджэння маёй жонкі да расстрэлу за нібыта шпіёнскую і правакатарскую дзейнасць.*

*Паколькі мая жонка ўжо сама апраўдвацца і абараняцца не можа, я настойваю на тым, каб мне паведамілі факты, якія паслужылі падставай да абвінавачання яе ў правакацыі і шпіянажы і выклікалі мяне ў пракуратуру БАВА, каб паведаміць мне ўсё, што можна было высветліць».*

Доўга Міхаіл Сямёнавіч не мог зміырыцца з думкай аб смерці Алены Лявонаўны. Цяжка пералічыць яго захады па яе рэабілітацыі. Здавалася, што ён вось-вось узарвецца пасля чарговага бюракратычнага адказу. Але хутка браў сябе ў рукі і пачынаў усё наноў. Нейкі час жыў у інтэрнацкім чатырохмесным пакоі. Знайшліся добрыя людзі: параілі звярнуцца ў суд. І хто б мог падумаць: суд разгледзеў іск Арэхвы і адсудзіў яму яго кватэру, напоўненую светлымі ўспамінамі.

Змагаючыся за добрае імя А. Ваяводскай, сабраў нядрэнны гістарычны матэрыял, у якім упаміналіся прозвішчы і іншых пакрыўджаных людзей. Так пачала складвацца дакументальная база для вяртання гонару і чалавечай годнасці дзесяткам рэвалюцыянераў, якія незаслужана пацярпелі ў дні тэндэнцыйнасці і дыктату.

Мікалай Сямёнавіч аддаваў усяго сябе новай справе. Нават працуючы ў пасляваеннай Польшчы (у Міністэрстве грамадскай бяспекі), ён выдзяляў час для вывучэння дакументаў па гісторыі КПЗБ, арганізацыі сустрэч з былымі паплечнікамі, збору мемуараў аб людзях і справах заходнебеларускага рэвалюцыйнага падполля. З цягам часу накопленае ўжо не ўмяшчалася ў асобным чамадане.

Вярнуўшыся летам 1956 года ў Беларусь, з задавальненнем прыняў прапанову заняцца навуковай працай. Новая дзейнасць стала чарговым этапам яго барацьбы за праўду, якую ён пачаў у 1940 г. пісьмамі да Панамарэнкі.

**Яўген БАРАНОЎСКІ.**

# Мясцовая інтэлігенцыя любіла чытаць «Мінскі лісток»

2 красавіка 1886 года выйшаў у свет першы нумар першай прыватнай грамадска-літаратурнай газеты «Мінскі лісток» (1886—1902). Спробы заснавання на Беларусі мясцовага друкаванага органа, на старонках якога адлюстроўвалася б грамадска-палітычнае і культурнае жыццё краю, неаднаразова рабіліся яшчэ ў 70-я гады XIX ст. Але развіццё перыядычнага друку ў правінцыі тармазілася царызмам, які баяўся росту палітычнага ўплыву прэсы на грамадства. Толькі ў 1886 г. натарыус І. П. Фацінскі атрымаў дазвол на выданне газеты «Мінскі лісток», якая была першым і доўгі час адзіным выданнем такога кшталту на Беларусі.

Па характару, зместу і ідэйным напрамку сваіх артыкулаў «Мінскі лісток» быў тыповай правінцыяльнай газетай свайго часу. У розныя перыяды выдаўцамі і рэдактарамі газеты былі, апрача І. Фацінскага, І. Сілініч, К. Зіноўеў, М. Мысаўскі, А. Мацкевіч, Ф. Каменскі і інш. У 1894—1897 гг., калі газету ўзначальвалі І. Сілініч і К. Зіноўеў і «Мінскі лісток» атрымаў больш радыкальны кірунак, царская цэнзура пачала прымяняць да яе рэпрэсіі. Многія нумары забараняліся або выходзілі са значным спазненнем. Нарэшце ў лютым 1897 г. Галоўнае кіраўніцтва па справах друку спыніла выданне газеты на восем месяцаў. Толькі пасля шматлікіх хадайніцтваў удалося аднавіць выпуск «Мінскага лістка».

Рэдакцыя газеты падтрымлівала сувязі з вядомымі вучонымі, даследчыкамі культурнай спадчыны беларускага народа. Вакол газеты арганізаваўся свайго роду гурток, у састаў якога ўвайшлі гісторык і этнограф М. Доўнар-Запольскі, этнограф А. Слупскі, гісторык і археолаг У. Завітневіч, даследчык гісторыі, археалогіі, этнаграфіі і літаратуры М. Янчук і іншыя вучоныя. Аднак большасць артыкулаў «Мінскага лістка» публікавалася пад ініцыяламі ці псеўданімамі або зусім не падпісвалася, што было характэрным для многіх асоб у выданні газеты.

На старонках «Мінскага лістка» можна было знайсці артыкулы філасофскага і сацыяльна-палітычнага зместу, працы па гісторыі, этнаграфіі, мастацтвазнаўству, творы мастацкай літаратуры, шматлікія карэспандэнцыі з месцаў.

У 1889 г. «Мінскі лісток» упершыню надрукаваў парадыйна-сатырычную паэму «Тарас на Парнасе», напісаную ў канцы 30-х пачатку 40-х гадоў XIX ст. Высока ацэньваючы творчасць паэта-дэмакрата Янкі Лучыны, газета неаднаразова змяшчала яго творы. У першым нумары газеты за 1886 год быў апублікаваны яго верш, у якім выкладзена праграма дзеяння рэдакцыі. Аддзел белетрыстыкі быў самым аб'ёмным і цікавым у газеце, знаёміў з творамі не толькі беларускіх, але і прагрэсіўных рускіх і замежных пісьменнікаў А. Чэхава, А. Астроўскага, М. Гогаля, І. Тургенева, А. Горкага, Э. Ажэшкі, Б. Пруса, Э. Заля, Гі дэ Мапасана і інш.

«Мінскі лісток» ставіў пытанні аб паходжанні беларускага народа, яго нацыянальнай своеасаблівасці, мове, вуснай народнай творчасці. У газеце публікаваліся артыкулы «З навуковай паездкі на Беларусь» М. Янчука, «Унія ў Мінску», «Мінск і яго мінулае» і «Стары Мінск» А. Слупскага. Вядомы беларускі гісторык М. Доўнар-Запольскі змяшчаў у газеце на працягу 1887—1892 гг. даследаванні «Падарожныя заметкі (ад Кіева да Рагачова)», «Сватаўство і дружкі жаніха ў беларускім вяселлі», «Сонейка і месяц у беларускай вясельнай паэзіі» і інш.

Газета адзначала як важкі ўклад у вывучэнне Беларусі з'яўленне ў часопісе «Вестник Европы» артыкула выдатнага фалькларыста-этнографа А. Пыпіна «Беларуская этнаграфія» перш за ўсё таму, што аўтар як бы адкрыў гэты край для шырокай грамадскасці.

З 1886 па 1893 год рэдакцыя «Мінскага лістка» выпусціла чатыры кнігі «Календара Паўночна-Заходняга края», якія змяшчалі, апрача вершаў і апавяданняў на беларускай мове, прыказак і прымавак, багаты даведачны і навуковы матэрыял пра Беларусь.

Даволі падрабязна асвятлялася ў газеце жыццё губернскага горада Мінска. У ёй можна было прачытаць пра арганізацыю тэлефоннай сеткі, пра адкрыццё коннай чыгункі, пра медыка-санітарны стан горада, пра дзейнасць таварыстваў урачоў, сельскіх гаспадароў і іншых арганізацый, пра правядзенне лекцый і гутарак па розных галінах ведаў і г. д.

«Мінскі лісток» быў выданнем, у якім мясцовая інтэлігенцыя магла выказаць свае адносіны да актуальных праблем грамадскага жыцця і разнастайных фактаў духоўнай культуры. Карэспандэнцы чытачоў былі не толькі водгукам на матэрыялы, надрукаваныя ў газеце, але і ставілі новыя задачы, звязаныя з прагрэсам навукі і культуры Беларусі. Першая на Беларусі прыватная грамадска-літаратурная газета «Мінскі лісток» у значнай ступені садзейнічала развіццю грамадска-палітычнай думкі, распаўсюджванню навуковых ведаў, узнімала важныя пытанні літаратуры.

**Наталля БЯРОЗКІНА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# Пад чорнай сутанай мужнае сэрца

Мне здавалася, што маё пакаленне, якое нарадзілася да Вялікай Айчыннай вайны, пра яе ведае калі і не ўсё, дык амаль што ўсё. Бо з таго часу, як мы дачакаліся Перамогі, мінула паўстагоддзя, і кожны год, і кожны дзень нам высвятлялі мноства падзей і ўчынкаў мужнасці і гераізму ўдзельнікаў змагання супраць чужынцаў — і воінаў, і партызан.

Але вось на маім рэдакцыйным стале ў выдавецтве «Беларусь» рукапіс гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» Навагрудскага раёна. Мяне ўсхвалявалі і здзівілі два кароткія факты — два расказы пра тых нашых суайчыннікаў, якіх у савецкі час лічылі «адлучанымі» ад дзяржавы і грамадства. Яны — царкоўнікі і манахі — нібыта жылі сярод нас, але былі не з намі. І, вядомая справа, ніхто на іх у час усенароднага змагання з ворагам не разлічваў і не чакаў ад іх аніякай падмогі.

Але яны былі з народам, былі і мужнымі, і самаахвярнымі. І нягледзячы на тое, што савецкая ўлада іх вельмі крыўдзіла, яны ад яе не адвярнуліся.

Вось што расказвае былы партызан-разведчык М. Лопух пра свайго земляка — святара з вёскі Ятра Барыса Кірыка і яго жонку, якую сяльчане звалі проста «матушкай».

Для барацьбы супраць партызан, якія дзейнічалі ў Навагрудскім раёне, фашысты стварылі спецыяльны батальён № 57. У маі 1943 года гэты батальён карнікаў акружыў вёску Застарынне, фашысты загналі ўсіх яе жыхароў — амаль 400 чалавек у хаты і спалілі жыўцом. Такі ж трагічны лёс напаткаў вёскі Ятра і Заполле. У час баёў з карнікамі партызаны мелі страты: некалькі чалавек загінулі, а іншыя былі цяжка паранены. Апошнім патрэбна было лячэнне. За гэту нялёгкую і небяспечную справу ўзяліся святар Барыс Кірык і яго жонка. У сваёй хаце пад падлогай яны зрабілі сховішча. Там больш як тры месяцы лячылі параненага партызана Віктара Угошына. У баі куля раздрабіла яму косць нагі. Пасля выздараўлення Угошын стаў камандзірам разведкі Першамайскага партызанскага атрада. Ён і расказаў партызанам-разведчыкам пра мужнасць і міласэрнасць святара Барыса Кірыка і яго жонкі, якія, рызыкуючы сваім жыццём, вылечылі не толькі яго, а больш за дзесятак партызан.

Між іншым, тая рызыка была не ўмоўнай, а самай сапраўднай. У час чарговай карнай аперацыі па чыімсьці даносе фашысты схапілі мужа і жонку Кірыкаў.

Іх страшэнна каталі, а пасля кінулі ў Калдычэўскі канцлагер, дзе яны і памерлі ад пакут, але нікога са сваіх памочнікаў не выдалі карнікам. А гэтымі памочнікамі былі дзяўчына з Турднаўскіх хутароў Стасевіч, якая працавала ў аптэцы ў Навагрудку і забяспечвала лекамі падпольны «шпіталь» Кірыкаў, Іван Лежань з Карэліч і іншыя.

Яшчэ адна трагічная гісторыя.

У барацьбе з партызанамі фашысты часцей за ўсё ўжывалі спосаб захопу заложнікаў. 1 жніўня 1943 года ад лютай нянавісці, што дыверсіі лясных мсціўцаў не спыняюцца, карнікі схапілі 11 манашак у Навагрудку, вывезлі іх за горад і расстралялі. Да месца пакарання манашкі ішлі з горда ўзнятымі галовамі. Адзін з гестапаўцаў пазней успамінаў: «Як яны ішлі, як ішлі тыя сёстры!» А невінаватыя манашкі прынялі смерць з пачуццём выкананага абавязку перад Богам і людзьмі. У імя выратавання іншых заложнікаў прынеслі сябе ў ахвяру А. Мардасевіч, Я. Жак, Я. Мацкевіч, Г. Кукаловіч і іншыя. Гэтыя жанчыны сваёй мужнасцю і высакароднасцю заслужылі павагу нашчадкаў і нашу памяць.

**Вячаслаў ВОЛЬСКІ.**

# У Таварыстве беларускай школы перш-наперш мяркуюць заняцца патрыятычным выхаваннем

**У Мінску прайшла генеральная асамблея па стварэнню Таварыства беларускай школы (ТБШ).**

Даўно і не намі заўважана: дзеянне нараджае процідзеянне. Вынікі леташняга рэферэндуму, на якім большасць з нас выказалася за двухмоўе, вельмі неадэкватна былі ўспрыняты многімі чыноўнікамі ад адукацыі — як пачатак наступу на беларускамоўнае школьніцтва. Прычым не сакрэт: лік выпадкаў, калі вучням і іх бацькам з самымі рознымі тлумачэннямі адмаўлялі ў прыёме ў беларускія класы, пайшоў на тысячы. Натуральна, у адказ яшчэ мінулым летам з'явілася ідэя стварыць грамадскую арганізацыю, якая возьме на сябе нялёгкія абавязкі абараніць замацаванае ў законах права на беларускамоўнае навучанне. Веласіпед выдумляць не сталі — арганізацыю (па аналогіі з другім па масавасці рухам у колішняй Заходняй Беларусі) было вырашана назваць Таварыствам беларускай школы.

Цікава, што стварэнне Таварыства пачалося, як мы кажам, «знізу». Прыклад яшчэ ў 1993 годзе падалі беларусы з Літвы, а летась суполкі з'явіліся ў Лідзе і Гродне. На сёння ў краіне існуе ўжо больш за 30 пярвічных суполак ТБШ з агульнай колькасцю сяброў (пераважна настаўнікаў і бацькоў) каля тысячы чалавек. Аднак, нягледзячы на неаднаразовыя абвяшчэнні аб стварэнні агульнарэспубліканскага Таварыства беларускай школы, да справы доўгі час не даходзіла. Нарэшце, чарговая спроба была зроблена ў лютым, калі ўзнік аргкамітэт на чале з кандыдатам філалагічных навук Алесем Лозкам. Да гонару апошняга, на гэты раз дэкларацыямі не абмежаваліся.

Ва ўстаноўчай асамблеі прынялі ўдзел вядомыя навукоўцы, пісьменнікі і супрацоўнікі Міністэрства адукацыі і навукі і, зразумела, прадстаўнікі ўжо створаных суполак ТБШ з Мінскай, Гродзенскай, Брэсцкай і Гомельскай абласцей, а таксама з горада Мінска. Само мерапрыемства, дарэчы, не звялося да гэтай фармальнасці. Яно і зразумела: тых жа варыянтаў Статута ТБШ аказалася два. Прычым з даволі істотнымі адрозненнямі.

Так, у праекце аргкамітэта абвяшчалася, што таварыства збіраецца працаваць «па захаванню ўжо існуючых і стварэнню новых школ і класаў з беларускай мовай навучання, двух- і шматмоўных школ на аснове нацыянальных... праграм і падручнікаў». Не трэба, відаць, казаць лішніх слоў пра тое, што запіс аб «двух- і шматмоўных школах» выклікаў неадназначную рэакцыю. Вінцук Вячорка, які прадстаўляў альтэрнатыўны праект статута, нават задаў сакраментальнае пытанне: навошта ў такім разе ўвогуле ТБШ, калі яно мае на мэце абараняць тыя ж рускія школы? Але знайшліся аргументы і ў аргкамітэта, які ў асобе сп. Лозкі даводзіў, што Таварыству нельга засяроджвацца толькі на беларускамоўных школах — «у астатніх таксама навучаюцца нашы беларускія дзеці». У выніку кампраміс быў знойдзены. Вырашана, што перш-наперш Таварыства будзе зважаць нават не на беларускамоўнае навучанне, а на патрыятычнае выхаванне, выхаванне на беларускай нацыянальна-культурнай глебе (гісторыі, геаграфіі і г.д.). Таму дзейнасць ТБШ толькі беларускамоўнымі школамі не абмяжуецца.

Выклікала спрэчкі і прапанова аргкамітэта стварыць пры Таварыстве прадстаўнічы орган — так званую Грамадска-педагагічную акадэмію з удзелам у ёй вядомых прыхільнікаў беларускай мовы — пісьменнікаў, навукоўцаў, палітыкаў. Прапанавалася таксама, што ў акадэмію увойдуць прадстаўнікі Міністэрства адукацыі. Аднак пярэчанняў аказалася зашмат. Па-першае, амаль усе выступоўцы заўважалі, што кідацца гучнымі словамі накшталт «акадэмія» не вельмі разумна. І па-другое, выказвалася небяспека, што прысутнасць у кіруючых колах ТБШ дзяржаўных служачых пераўтворыць арганізацыю не больш чым у буфер паміж бацькамі і міністэрствам. Тым не менш, у нечым да ідэі прыслухаліся. З'явілася прапанова ўтварыць пры ТБШ дарадча-аналітычны цэнтр (Назіральны сойм), у які не будуць уваходзіць прадстаўнікі ўлады. Забягаючы наперад, адзначым, што ў сойм былі сабраны такія вядомыя ў краіне людзі, як Анатоль Грыцкевіч, Мікола Ермаловіч, Пётр Краўчанка, Мікола Савіцкі, Павел Лойка, Ніл Гілевіч, Вінцук Вячорка, Лявон Баршчэўскі, Леанід Ціханаў, Уладзімір Арлоў, Аляксандр Астроўскі.

Больш прынцыповых разыходжанняў не знайшлося. Статут быў прыняты, а гэта азначала па чутнасці стварэнне новай грамадскай арганізацыі — Таварыства беларускай школы. Яе галоўнымі мэтамі, дарэчы, апроч ужо згаданых намераў спрыяць захаванню і адкрыццю новых беларускамоўных школ і класаў, абвешчаны таксама забеспячэнне права на бесперапынную адукацыю па-беларуску ад дзіцячага садка да ВНУ, стварэнне вучэбных падручнікаў і дапаможнікаў і ўдзел у распрацоўках адукацыйных праграм.

Планы, як бачна, даволі вялікія. Але разважаць аб іх выкананні ўжо зараз не хацелася б — пакажа час. Прычым недалёкі — новы навучальны год не за гарамі. Як, між іншым, не за гарамі і другая значная падзея: у снежні спаўняецца 75 гадоў з дня стварэння «старога», заходнебеларускага ТБШ, у гонар заснавальніка якога цяперашняе Таварыства ўзяло сабе імя Браніслава Тарашкевіча.

А пакуль у якасці канстатацыі застаецца дадаць: прэзідэнтам адроджанага ТБШ абраны былы намеснік міністра адукацыі і навукі, а цяперашні прарэктар Беларускага камерцыйнага універстэта кіравання Генадзь Пятроўскі.

**Сяргей ГРЫБ.**



# Ён мусіў радзіму пакінуць, ён мусіў памерці далёка...

Другога красавіка ў Італіі адбылася значная для Беларусі падзея: у Фларэнцыі, на доме пры плошчы Санта Марыя Навэла,была ўсталявана дошка Міхалу Клеафасу Агінскаму (1765—1833). Менавіта тут правёў апошнія гады свайго жыцця кампазітар, чыя музыка вось ужо два стагоддзі не перастае хваляваць душы людзей незалежна ад іх узросту, роду заняткаў, нацыянальнай прыналежнасці. Мастацкі твор з бронзы выкананы беларускім скульптарам Валяр'янам Янушкевічам. Тонкае адчуванне музыкі Агінскага дапамагло аўтару рэльефа ў пластычных лініях перадаць яе сутнасць: яе невымерную тугу і журбу па страчанаму, а разам з тым яе мужнасць, прагу і любоў да жыцця. Карціна цкавання драпежнымі ваўкамі высакароднага каня з'яўляецца ў рабоце В. Янушкевіча глыбокім сімвалам.

Ёсць значная доля справядлівасці ў тым, што менавіта Беларусь ушаноўвае памяць М. К. Агінскага. Многія гады яго нязменна лічылі выключна польскім кампазітарам, а ягоныя творы — помнікамі польскай музычнай культуры. Тым не менш, Агінскі дваццаць гадоў свайго сталага жыцця правёў на сённяшняй беларускай зямлі, недалёка ад Смаргоні. Атрымаўшы ад Аляксандра І дазвол вярнуцца на радзіму, Агінскі ў тым жа 1802 годзе становіцца і спадкаемцам Залесся, маёнтка, перададзенага кампазітару ягоным дзядзькам Францішкам Ксаверы Агінскім.

Якія ж сілы вымусілі Агінскага доўгіх 11 гадоў жыцця правесці ў Фларэнцыі, памерці і быць пахаваным удалечыні ад той зямлі, дзе столькі стагоддзяў квітнеў старадаўні княжацкі род ягоных продкаў? Што прымусіла яго раптоўна пакінуць роднае Залессе з маляўнічымі ваколіцамі і пасяліцца ў чужым, хоць і такім прывабным сваімі мастацкімі скарбамі, горадзе? Адказ на гэтыя пытанні можна знайсці ў беларускіх, расійскіх і польскіх даследаваннях, прысвечаных жыццю і творчасці Агінскага (Л. Трэпет, І. Бэлза, Т. Струміла) У іх ёсць звесткі, што доўгі час М. К. Агінскі, сенатар Расійскай імперыі з 1810 года, спрабаваў аднавіць Вялікае княства Літоўскае пад скіпетрам расійскага цара, любой цаной намагаўся ўтрымаць права на годнасць людзей знішчанай дзяржавы. Вядомыя дзве «Памятныя запіскі, пададзеныя імператару Аляксандру І графам Міхалам Агінскім» (1811 г.), а таксама «Праект указа аб новай арганізацыі заходніх губерняў», які, зрэшты, у тую эпоху ніяк не мог быць рэалізаваным. Вонкава захоўваючы вернасць расійскаму прастолу, Агінскі, былы ўдзельнік касцюшкаўскага паўстання, працягваў падтрымліваць сувязі з масонамі, а таксама «небяспечнымі» для імперыі філаматамі і філарэтамі. У 1822 г. шпегамі цэсарэвіча Канстанціна Паўлавіча былі выкрыты сувязі «легальных» масонскіх ложаў з тайнымі палітычнымі арганізацыямі нацыянальнага вызвалення. Пачаліся арышты патрыётаў. Тады Агінскі, матывуючы свой ад'езд неабходнасцю лячэння падагры, просіць царскі ўрад аб доўгатэрміновым адпачынку. І афіцыйныя ўлады, не пажадаўшы ўзбуджаць палітычнай справы супраць асобы ўсім вядомага і любімага кампазітара, задавальняюць ягоную просьбу.

У Фларэнцыю Агінскі прыбыў у студзені 1823 года. Несумненна, гэты цудоўны італьянскі горад вабіў яго сваёй рэнесанснай яснасцю і прыгажосцю, хутчэй паўночнай стрыманасцю фарбаў і незлічонымі мастацкімі скарбамі, якія ўсё ж наўрад ці да канца маглі запоўніць пустэчу душы кампазітара...

У Італіі Агінскі піша і выдае свае апошнія творы, у 1828 г. заканчвае «Лісты аб музыцы». Не перапыняюцца і ягоныя сувязі з эміграцыяй. Агінскі займаецца арганізацыяй канцэртаў і публікацыяй твораў выдатнай польскай піяністкі і кампазітаркі Марыі Шымаaccount: Шымаўноўскай. Сваё зямное жыццё аўтар бессмяротнага паланеза скончыў ціха і непрыметна. Доўгі час была невядома нават дакладная дата ягонай смерці. Кампазітар быў пахаваны на могілках дамініканскага касцёла Санта Марыя Навэла, а пасля ягоная труна была перанесена ў пантэон Санта Крочэ, дзе разам з цудоўным мармуровым саркафагам Агінскага знаходзяцца надмагіллі Г. Галілея і Мікеланджэла...

Цяпер жа яшчэ адным помнікам кампазітару будзе і старадаўні фларэнтыйскі дом, маўклівы сведка апошніх гадоў жыцця Агінскага. Урачыстае адкрыццё памятнай дошкі адбылося пры непасрэдным садзейнічанні мэрыі Фларэнцыі. У саставе беларускай дэлегацыі — аўтар памятнага рэльефа В. Янушкевіч, старшыня парламенцкай Камісіі па міжнародных справах П. Краўчанка, а таксама дырыжор сімфанічнага аркестра г. Маладзечна, дырэктар музыкальнага вучылішча імя М. К. Агінскага Р. Сарока. Дарэчы, па ініцыятыве Р. Сарокі на будынку вучылішча ў лістападзе 1995 г. была ўсталявана копія фларэнтыйскай дошкі, а ў хуткім часе перад ім узнімецца і помнік кампазітару (аўтар — В. Янушкевіч). І зусім не выпадкова, што менавіта маладзечанцы так дбайна ўшаноўваюць імя Агінскага. Бо не менш моцна, чым з Залессем, ніці гісторыі звязваюць Агінскага і з Маладзечна. Трохі ўбок ад горада, сярод балотных пустак узвышаецца старадаўняе замчышча, дзе некалі стаяў палац маладзечанскага графа, уладальніка горада, кухмайстра літоўскага Францішка Ксаверы Агінскага (1741—1814), роднага брата бацькі кампазітара Андрэя Агінскага. Сам М. К. Агінскі ў 1808 г. на ўласныя сродкі пабудаваў і адчыніў у Маладзечне павятовую школу, куды перадаў частку сваёй велізарнай бібліятэкі, заклаўшы тым самым падмуркі адукацыі горада.

**Святлена НЕМАГАЙ.**

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# ЖАВАРОНАЧКІ, ПРЫЛЯЦІЦЕ

Спявалі дзяўчаты, маладзіцы рытуальную песню, падкідваючы ўверх выпечаных з цеста жаўрукоў. Юнакі, маладыя мужчыны ігралі ў лад на пастуховай трубе. Дзеці, падлеткі бегалі вакол іх, весяліліся. Так на Беларусі ў дні веснавога раўнадзенства на прасторы, за паселішчам спраўлялі абрад гукання вясны.

Гэты звычай падтрымлівалі, беражліва перадавалі з пакалення ў пакаленне. Людзі верылі ў Прыроду, як у саміх сябе. Яны адухаўлялі яе, імкнуліся наладзіць з ёй сувязь не толькі на фізічным узроўні, але быць у арганічным адзінстве і духоўна. Яны спявалі Прыродзе песні і спадзяваліся, што іх думы, трывогі, памкненні будуць успрыняты. Песня дапамагае людзям упрыгожыць адносіны паміж сабою, прасвятляе, абнадзейвае іх, песня лучыць чалавека з прасторам — той часткай Прыроды, дзе ён знаходзіцца.

Вясну чакаюць. З нецярплівасцю чакаюць ужо з таго часу, калі паступова пачалі адыходзіць цёплыя дні, а над краем павеялі халодныя вятры і ўсё часцей хмурылася, імжэла неба. Вясна прыносіць абуджэнне ў Прыроду — людзі вельмі жадаюць зменаў, хочуць устрапянуцца пачуццямі, ажыўленымі вачамі агледзецца вакол сябе. Людзі імкнуцца насустрач вясне, песняй вітаюць яе прыход. На дапамогу для вітання клічуць жывых вестуноў новай пары года — жаўрукоў. Яны аднымі з першых вяртаюцца з выраю ў наш край і ўвесь час знаходжання тут ажыўляюць яго пералівістым звонкагалосым спевам.

Песня «Жавароначчкі, прыляціце» змяшчаецца ў тым выглядзе, як пададзена ў «Анталогіі беларускай народнай песні». Яе запісаў Генадзь Цітовіч у 1948 годзе ад Арыны Алесік у в. Ланской Маларыцкага раёна. Гэты вакальны твор пастаянна выконваецца на канцэртах Дзяржаўнага народнага хору Беларусі. Мелодыя песні выкарыстаны Дзмітрыем Камінскім як адна з галоўных тэм яго Першага фартэпіяннага канцэрта.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

## Жаваронaчкі, прыляціце

***Беларуская народная песня***

Жаваронaчкі, прыляціце,
Вясну красную прынясіце,
Каб сонейка засвяціла,
Каб снег белы растапіла,
Каб садзікі расквяціла.
Жаваронaчкі, прыляціце,
Зямлю-матухну абудзіце
І доджыкам напаіце,
Каб травачкі нарасціла,
Каб волікаў накарміла.
Жаваронaчкі, прыляціце,
Цёпла лецейка прынясіце,
А зімачку прыбярыце,
Бо зімачка надаела —
Нам хлебушкі параела.




*ГАЛЕРЭІ*

# ПАГЛЯДЗІЦЕ Ў ТВАР ТЫМ, ХТО МАРЫЎ ПРА БЕЛАРУСЬ

У сценах Чырвонага касцёла на цокальным паверсе месціцца выстава «Дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння».

Пад дахам святога храма знайшлі добры прытулак дзевяноста партрэтаў знакамітых беларускіх асветнікаў, пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў і святароў, якія з'яўляюцца гонарам нашай зямлі. Партрэты графічныя і жывапісныя, над якімі працавалі мастакі Анатоль Крывенка, Сямён Герус, Ран Лазар, Яўген Цікановіч, Міхась Басалыга ды іншыя. Творцаў, што захавалі для нас памяць, многа, як многа і людзей, пра якіх мы вельмі мала ведаем. Калі пра некага яшчэ ўзгадвалі школьныя падручнікі гісторыі і літаратуры, то большасць імёнаў проста забаронена было памятаць. Многія з іх носьбітаў былі закатаваны. Тут мы бачым дзеячаў «Нашай нівы», «Грамады», першага ўрада БНР, і тых, хто сёння з'яўляецца сумленнем нашай краіны: Усевалад Ігнатоўскі, Максім Гарэцкі, Язэп Лёсік, Ларыса Геніюш, Янка Купала і Паўліна Мядзёлка, Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін...

Яны пазіраюць на нас цяперашніх, яны гавораць з намі. Прама з партрэта гучаць словы Аляксандра Цвікевіча: «Толькі свая ўлада на сваёй зямлі паможа беларусу загаварыць на роднай мове і выбіцца з той беднасці, у якую загналі яго шчаслівыя суседы-супернікі».

Выстава арганізавана аб'яднаннем «Спадчына», партрэты прадастаўлены яго старшынёй Анатолем Белым. А пра надзённасць і патрэбнасць яе гавораць водгукі: «Як добра, што ёсць людзі, якія захоўваюць нашу сапраўдную гісторыю».

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

# БЕЛАРУСКІ ДЖАЗ НА РАСІЙСКАЙ СЦЭНЕ

Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі атрымаў запрашэнне ад канцэртнай залы імя Чайкоўскага ў Маскве.

Нашы музыканты выступілі там з джазавай праграмай. Упершыню ў Маскве прагучаў беларускі джаз — сюіта Уладзіміра Ткачэнкі на беларускія тэмы, у якой саліраваў аўтар. Гэта выступленне Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі з'яўляецца своеасаблівай справаздачай напярэдадні яго дзесяцігоддзя, тым больш значна, што яно адбылося ў адной з самых прэстыжных залаў Расіі.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**




## ЛІКВІДАЦЫЯ НЯСПРАЎНАСЦЕЙ СІСТЭМЫ ПУСКУ РУХАВІКА Ў ДАРОЗЕ

Калі ў дарозе ў вас узнікнуць цяжкасці з запускам рухавіка і павінен у гэтым выключальнік запальвання, то лепш за ўсё зняць правады з кантактаў 30 і 50 выключальніка запальвання.




Для запуску трэба на кароткі час злучыць паміж сабой знятыя правады, а пасля запуску паставіць іх на месца.

Часам дрэнны запуск рухавіка бывае з-за слабага кантакту рухавіка з кузавам аўтамабіля. Таму трэба праверыць надзейнасць злучэння рухавіка з «масай».

Калі пры запуску рухавіка будуць чутны шматразовыя пстрычкі альбо цягавае рэле наогул не будзе спрацоўваць (не будзе пстрычак рэле), якар стартэра будзе слаба круціцца, тады для запуску рухавіка трэба ўзяць кавалак дроту сячэннем 12—14 мм ці доўгую адвёртку і на кароткі час замкнуць кантактныя балты стартэра.



Пры гэтым электрарухавік стартэра будзе напрамую злучаны з акумулятарнай батарэяй, і, калі электрарухавік спраўны і батарэя не вельмі разраджаная, каленчаты вал будзе пракручвацца энергічна.

Калі пасля запуску стартэр не выключаецца, то трэба спыніць рухавік, выключыўшы запальванне. Пры гэтым могуць быць два выйсці. У першым выпадку рухавік спыняецца

. Тое, што стартэр пры гэтым выключаецца, тлумачыцца проста: у махавіку каленчатага вала рухавіка заклінавалася шасцерня прывода. Паспрабуйце пакачаць аўтамабіль пры ўключанай перадачы. Часта гэтага дастаткова, каб шасцерня выйшла са шчаплення з вянцом махавіка і пад уздзеяннем буфернай спружынкі вярнулася ў зыходнае становішча.

Часам магчыма другое выйсце пры вашай спробе спыніць рухавік выключэннем запальвання. Рухавік пры гэтым не спыняецца, паколькі стартэр працягвае круціць каленчаты вал рухавіка. Такое становішча ўзнікае, калі спякаюцца кантакты цягавага рэле ці сапсаваны выключальнік запальвання.

У гэтым разе трэба неадкладна спыніць стартэр, аддзяліўшы провад ад адмоўнага вываду акумулятарнай батарэі.

Калі невыключэнне стартэра з'яўляецца вынікам няспраўнасці выключальніка запальвання, то трэба зняць правады з кантактаў 30 і 50 выключальніка запальвання, падключыць аддзелены провад да акумулятарнай батарэі і запусціць рухавік кароткачасовым злучэннем правадоў.

## ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З СІСТЭМАЙ АХАЛАДЖЭННЯ

***Уладальнік «Форда-Гранада» выпадкова выявіў, што пры высокіх тэмпературах ахаладжальнай вадкасці ўключаецца толькі адзін вентылятар, а іх у машыне два. Не ўбачыўшы абрыву ў злучэннях і ўпэўніўшыся ў чысціні кантактаў, ён ад плюсавога кантакту аднаго вентылятара перакінуў «масток» да плюса другога. Зараз пры разаграванні рухавіка ў работу ўключаліся абодва электраматоры.***

Аднак на гэтым праблемы не скончыліся. Пасля чарговай змены вадкасці ў сістэме ахаладжэння паказальнік тэмпературы пачаў працаваць вельмі дзіўна: стрэлка то падала амаль да нуля, то ўзнімалася да чырвонай адзнакі шкалы. І толькі ў рэжыме халастога ходу хістанне стрэлкі спынялася.

Уладальнік западозрыў наяўнасць паветранай пробкі ў сістэме ахаладжэння. Знайсці яе не вельмі цяжка: пасля праграvання рухавіка падводзячы шланг ацяпляльніка награваўся, а адводзячы заставаўся халодным. Каб прагнаць паветра, ён, не выключаючы рухавіка, адкруціў накрыў радыятара і некалькі разоў рэзка націснуў на газ. У горлавіне адразу забурболіла паветра. Калі яго выхад спыніўся, антыфрыз быў даліты да неабходнага ўзроўню, накрыўку закрылі. Пасля гэтага паказальнік тэмпературы стаў працаваць добра.

Гэтым спосабам трэба карыстацца толькі на непрагрэтым рухавіку. Інакш можа адбыцца выкід тасолу з радыятара.

**«CAR MECHANICS».**

## ЗРУЧНЫ І НАДЗЕЙНЫ КЛЕЙ

***Калі ў вас лопнула накрыўка перарывальніка-размеркавальніка, а запаснога ці клею няма, яе можна скленць... сокам часнаку. Гэтым сокам вельмі добра склейваюцца фарфоравыя чашкі і талеркі.***



Натрыце месца разлому долькай часнаку і сціснiце часткі накрыўкі на адну-дзве хвіліны, як пры карыстанні звычайным клеем. Часночны «клей» не баіцца павышанай тэмпературы і мае добрыя электраізаляцыйныя ўласцівасці. Ездзіць з такой накрыўкай можна даволі доўга.

## У КАПІЛКУ МАЙСТРОЎ

**Аднойчы мне давялося здымаць прыймовую трубу глушыцеля сваіх «Жыгулёў» са шпілек калектара, каб замяніць прагарэўшую пракладку. Цягаў, цягаў трубу пакуль дзве шпількі не зламаліся. На станцыі абслугоўвання мне разабралі рухавік, знялі калектар, прасвідравалі навылетныя дзіркі і замацавалі трубу балтамі. Так і езджу па сённяшні дзень.**

Нядаўна бачыў як здымаў трубу глушыцеля адзін механік у сваім гаражы.

Ён адкручвае ад каробкі хамут, фіксуючы трубу пад машынай. Апору («нагу») штатнага дамкрата праз анучу ўпірае ў бакавую сценку лонжэрона, а паўзун з лапкай — у карбюратар. Асцярожна круціць ручку дамкрата, пакуль рухавік дзякуючы сваім гумавым апорам не адсунецца і шпількі не выйдуць  і з фланцы трубы, якую ён таксама адцягваў рукой.

Труба здымаецца і ніякіх паломак.

**Калі маслены фільтр не ўдаецца адкруціць рукамі, значыць яго пракладка прыліпла да блока цыліндраў.**

Усуньце паміж фільтрам і блокам мантажную лапатку і пацягніце яе на сябе, як бы адцягваючы фільтр. Пачуецца шыпячы гук, быццам выходзіць паветра, пасля гэтага фільтр лёгка адкруціцца.

**Дапусцім, вам трэба зрабіць на рухавіку якую-небудзь даволі складаную работу — змену маслаздымных каўпачкоў, рамонт галоўкі блока і гэтак далей.**

На аўтамабілях, у якіх капот замацаваны наперадзе кузава, як у «Жыгулях» ці «Масквічах», пачынаць работу лепей зняўшы капот. Працаваць будзе зручней, а паставіць капот назад можна без усякай цяжкасці.

**У «Жыгулях» пры ўстаноўцы цеплаахоўнага шчытка стартэра вам не ўдаецца з-за цяжкасці падыходу ўкруціць штатны болт.**

Вазьміце другі, на 5 мм даўжэй, і ўкруціце яго з другога боку ў гайку на апоры. Цяпер на яго, як на шпільку, лёгка надзець вушка шчытка і накруціць яшчэ адну гайку.

**У шматлікіх машын у стыку выпускаючага калектара і трубы глушыцеля ўшчыльняльным элементам служыць меднае ці алюмініевае кольца.**

Калі яно прагарэла ці разбурылася, паўнацэнны заменнік можна зрабіць без усякіх станкоў ці прыстасаванняў — з мнагажыльнага меднага дроту. Яго даўжыню вызначаюць па месцы, паколькі яна залежыць ад сячэння жыл і памераў выраблямага кольца (звычайна трэба 1-2 метры). Провад патрэбна ачысціць ад ізаляцыі. Са злёгку скручаных жыл выраблююць пачатковае кольца, якое затым аплятаюць да патрэбнай таўшчыні так, каб дроцікі як мага шчыльней прылягалі адзін да аднаго.

### УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ.

НОТНЫ РАДОК

## ВЯСНОЮ МУЗЫКА ІМКНЕЦЦА Ў XXI СТАГОДДЗЕ

**Штогадовы фестываль «Мінская вясна-1996» праводзіцца з 1-га па 19 красавіка ў дзвюх залах Белдзяржфілармоніі. Сёлета ён носіць назву «Музыка на мяжы XXI стагоддзя».**

Якую ж музыку мы возьмем з сабою ў новае стагоддзе? Над гэтым паспрабавалі паразважаць арганізатары фестывалю. Канешне, развагі такія даюцца з болем: патрэбны сродкі, каб прадставіць усе магчымыя накірункі ў сусветнай музыцы, арганізаваць канцэрты з удзелам знакамітых музыкантаў. А «Мінская вясна», напэўна, самы танны фестываль на Беларусі. Таму што робіць стаўку на ўласныя сілы, тыя, што мае сёння наша краіна. Усе вядучыя музычныя калектывы Беларусі прымуць удзел у канцэртах «Вясны», таму мы на ўласныя вочы зможам убачыць, з якім музычным скарбам пойдзе ў XXI стагоддзе наша краіна.

— Асаблівасць сёлетняй «Мінскай вясны» — яна праходзіць напярэдадні 60-гадовага юбілею Белдзяржфілармоніі, — сказаў на прэс-канферэнцыі заслужаны артыст Беларусі Юрый Гільдзюк, мастацкі кіраўнік філармоніі. — Таму нам было вельмі важна зрабіць своеасаблівы агляд музычных сіл Беларусі. Хоць асноўныя мерапрыемствы юбілею хутчэй за ўсё прыпадуць на фестываль «Беларуская музычная восень», на які мы чакаем нашых шматлікіх сяброў.

У праграме красавіцкага фестывалю будуць прадстаўлены творы сучасных кампазітараў, а таксама музычная класіка. Харавая, сімфанічная, камерная музыка, чакаецца эксперымент — канцэрт «Фольк + джаз = музыка». Прагучыць шэраг прэм'ер беларускіх кампазітараў: кантата для тэнара, сапрана і камернага аркестра Віктара Капыцько «Пра Мудрасць, Журбу і Радасць», Сімфонія № 3 Вячаслава Кузняцова. Напярэдадні новага стагоддзя цікавіць будучыня беларускай выканаўчай школы — пошукі маладых і сталых нашых музыкантаў у розных жанрах, проба сябе на іншых інструментах таксама адлюстраваны ў канцэртнай праграме.

У камернай зале пройдзе шэраг канцэртаў, прысвечаных «Міжнародным дням мандалiннай музыкі».

Прыедуць да нас вясною госці: дырыжор Цімур Мынбаеў, заслужаны дзеяч мастацтваў Казахстана, піяніст з Аўстрыі Павел Зінгер, народная артыстка Расіі Ірына Бачкова (скрыпка), маскоўскі віяланчэліст Аляксандр Князеў, які на гэты раз будзе іграць на аргане, малады, але вядомы ў Еўропе піяніст Уладзімір Мішчук.

Адкрыўся фестываль 1 красавіка ў канцэртнай зале філармоніі. Акадэмічны хор нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь выступіў разам з хорам факультэта харавога дырыжыравання Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам прафесара Віктара Роўды.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## Сабака — лепшы сябар. Як для каго!

Мяне сама меней двойчы на дзень ставяць па стойцы «смірна». Кожную раніцу і кожны вечар. У войску я не служу, а проста як жыхар Казіміраўкі (ускраіна Магілёва) вымушаны перадольваць невялікую адлегласць ад дома да аўтобуснага прыпынку.

Тут па гэтай стойцы мяне і ставяць.

Сабакі.

У Казіміраўцы вытворчых аб'ектаў мала, але вартаўнікі дзяжураць там з аўчаркамі, не лічачы неабходным трымаць гэтых памочнікаў на ланцугу. Неслужбовым сабакам таксама воля. Карыстаючыся тым, што пасёлак не належыць ні да сяла, ні да горада, хаця афіцыйна ўваходзіць у Цэнтральны раён абласнога цэнтра, сабакаўладальнікі не выгульваюць сваіх пачвар, а проста адчыняюць дзверы кватэр — і бяжы. Калі такі ваўкадаў набліжаецца да цябе, спыніся і не ўздумай паварушыцца. Парве штаны — не самае горшае.

Нонсенс: я нічога не парушаю, мяне не спыніць міліцыянер, але гэта зробіць сабака. І я, свабодны грамадзянін у свабоднай дзяржаве, стаю і дрыжу, пакуль нейкая псіна ростам з цяля абнюхвае мае штаны. А то яшчэ і нагу сваю задзярэ.

Дарэчы, казіміраўскія сабакі спраўляюць звычайна патрэбу — вялікую і малую — на школьным двары. Там для іх тэрыторыя лепш не трэба: прасторны пляц і шмат насаджэнняў. Паспрабаваў бы гэта зрабіць грамадзянін.

Сабакам, аднак, усё сходзіць. Ім не трэба мець пашпартоў і прапіскі. Плаціць за ваду і газ, неабходныя для свайго жывёльнага пражыцця. І чатырохногіх развялося — страх. Іх колькасць не кантралюецца. Гэта ў Кітаі могуць рэгуляваць насельніцтва, але ў нашай краіне не існуе нават нормы, колькі на чалавека павінна прыпадаць сабак і катоў. Дарэчы, у лясной гаспадарцы вядуць улік дзікіх жывёл, чаго не скажаш пра «культурны» горад.

Імкліваму размнажэнню братоў меншых ёсць тлумачэнне. Па-першае, злачыннасць. Але ж сабака «вырубаецца» газавым балончыкам гэтак жа, як і чалавек.

Па-другое, мода. Ах, ах, хто не любіць сабачак, той не любіць і чалавецтва. Да ведама сентыментальнай публікі: сабака любіць гаспадара, а ўсіх астатніх ненавідзіць. Такая прырода.

Узнімаць гэтую тэму, напэўна, было б не варта, бо на яе ўжо звярнулі ўвагу ўлады, у прыватнасці Магілёўскі гарвыканком. Яго старшыня Дзмітрый Сівіцкі на аператыўнай планёрцы рашуча запатрабаваў ад адпаведных службаў навесці парадак, а ўладальнікаў хатніх жывёл публічна папярэдзіў: сабак і кошак, якія па-за домам, будуць знішчаць.

Што б вы думалі? Прайшло два тыдні, а «сябрам» чалавека, якія кусаюцца, хоць бы хны. Больш таго. Яны пачалі збірацца ў зграі, бо спраўляюць свае шлюбныя гульні. Напэўна, асаблівасць чалавечай натуры — гаварыць, але не рабіць — засвоілі добра. Як і іх гаспадары, спасцігнуўшыя ісціну, што ад рашэння да выканання ў нас звычайна адлегласць як ад зямлі да неба.

Між тым, праблема не такая нязначная, як гэта здаецца на першы погляд. Галоўны ўрач цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Мікалай Жыгуноў лічыць, што асноўнай прычынай інфекцыйных захворванняў людзей, асабліва дзяцей, з'яўляюцца менавіта сабакі і кошкі, і не толькі бадзяжныя. Факт, што называецца, медыцынскі.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

Згубленае пасведчанне аб праве на льготы № 180635 серыі А, выдадзенае на імя **МЫЧКО Мікалая Мікалаевіча**, лічыць несапраўдным.

Згубленае пасведчанне аб праве на льготы № 181226 серыі А, выдадзенае на імя **ТУМІЛОВІЧА Віктара Паўлавіча**, лічыць несапраўдным.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; агладальнікаў на праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Пастаvах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113.326 Індэкс 63850.
Зак. № 1698.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12